

# Беларус

*Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!*
Францішак Багушэвіч (1840-1900)

**№ 381 Ліпень-Жнівень 1991**
Год выд. XI

**BIELARUS** / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50

## «НЬЮ-ЁРК ТАЙМС» ПРА БССР У ААН

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» (23.VII) апублікавала артыкул пра Ўкраіну і Беларусь у Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Матар'ял зьмешчаны пад заг. «Сталінава ўдача ў Ялце, ці ня дасьць яна рыкашэту ў Нью-Ёрку?»

Публікацыя, трэба сказаць, вельмі на часе ў сувязі з драматычнымі падзеямі ў Савецкім Саюзе і заплянаванымі радыкальнымі зьменамі структуры савецкай фэдэрацыі.

Якую-ж пазыцыю займаюць цяпер на форуме ААН дэлегацы Менску і Кіева? Наколькі Беларусь і Ўкраіна незалежныя цяпер ад маскоўскага цэнтру ў сваіх выступленьнях на міжнародным форуме ў такіх пытаньнях, як ядзерная зброя, экалёгія (Чарнобыль)? Як ведама, пагляды Менску, Кіева й Масквы ў гэтых пытаньнях не заўсёды аднолькавыя.

Некалі, у кастрычніку 1971 году, дзяржаўны сакратар ЗША Роджэрс у сваім выступленьні на Генэральнай Асамблеі ААН з поўнай рацыяй заявіў: «Мы ўсе ведаем, што Беларусь і Ўкраіна — не апрычоныя дзяржавы». А сёньня? Ці абвешчаныя год таму ў Кіеве і Менску «сувэрэннасьць» адлюстроўваецца ў дзейнасьці ўкраінскае і беларускае дэлегацыяў у ААН?

«Нью-Ёрк Таймс» падаў выказваньне галавы ўкраінскае місіі (і фатаздымак ягоны зьмешчаны) Генадзя Ўдавенкі, які сказаў: «Раней мы гаварылі пра замежную палітыку Савецкага Саюзу. Цяпер мы маем замежную палітыку Ўкраіны».

Летась, піша газэта, Беларусы зьдзівілі тут дыпляматаў сваёй прапановай зрабіць Беларусь, Украіну і Прыбалтыку зонай, свабоднай ад ядзернай зброі.

Шэф украінскае дэлекацыі Ўдавенка выказаў нават думку, піша «НЁТ», што ўкраінская місія можа высяліцца з будынку, дзе яна месьціцца супольна з усесаюзнай місіяй (там-жа знаходзіцца і місія БССР) і займець сваё асобнае памешканьне, каб падкрэсьліць гэтым незалежнасьць свае праваджанае ў ААН лініі.

«НЁТ» падае словы галавы ўсесаюзнае дэлегацыі Юлія Варанцова пра місіі Ўкраіны і Беларусі. «Гэта яшчэ ўсё зьдзіўляе, — сказў Варанцоў, — калі іхная пазыцыя розьніцца чымнебудзь ад пазыцыі Савецкага Саюзу, але нас гэта не бянтэжыць».

Цяпер, калі няма больш халоднай вайны, зазначае «НЁТ», дык менш сутычак і на міжнароднай арэне. Зрэшты, галасы трох савецкіх місіяў у ААН ня так ужо часта й разыходзяцца, дадае газэта. Дзьве рэспубліканскія місіі ў некалькіх адно дробных выпадках галасавалі ня так, як місія ўсесаюзная. Гэтым днямі Ўкраінцы й Беларусы, як выглядае, найбольш зацікаўленыя ў наладжваньні кантактаў з Захадам, піша «НЁТ», але захоўваюць супакой і самаўпэўненасьць.

**Я. З.**

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ




*Беларуская група перад будынкам Аб'еднаных Нацыяў у Нью-Ёрку. Фота Надзі Кудасавай*

У сваёй сёлетняя праклямацыі Тыдня Паняволненых Народаў (13-20.VII) Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш падкрэсьліў моц ідэалаў нацыянальнае сувэрэннасьці і асабістай свабоды. Нядаўныя падзеі ў Усходняй Эўропе, сказана ў праклямацыі, наводчна прадэманстравалі сілу гэтых ідэалаў, пад узьдзеяньнем якіх і Савецкі Саюз быў змушаны пайсьці ў кірунку дэмакратыі і галоснасьці. У праклямацыі сказана, што як гэта ні трагічна, не зважаючы на зьмены да лепшага ў шмат якіх краінах, паняволеныя народы ўсё яшчэ застаюцца, і дзеля гэтага Злучаныя Штаты наважаныя падтрымваць і надалей веру ў вызваленьне з-пад уціску, падтрымваць імкненьні паняволеных народаў да дэмакратыі аж пакуль кожны зь іх ня станецца свабодным, як гэта прадбачыць Усеагульная Дэклярацыя Правоў Чалавека, Гэльсынскае пагадненьне і нядаўна прынятая Парыжская хартыя.

У такім-жа духу праклямацыі Тыдня Паняволеных Народаў выдалі таксама губэрнатары штатаў Алябама, Мэрылэнд, Род-Айлэнд, Нью-Ёрк, Масачусэтс, Паўночная Караліна, Люізіяна, Флярыда, Вірджынія, Місысыпі.

## ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў АБАРОНУ В. СЯДОВА

У чацьвер 18 ліпеня перад будынкам Аб'еднаных Нацыяў Нью-Ёрку адбылася дэманстрацыя ў сувязі з Тыднем Паняволеных Народаў. У ёй узялі ўдзел прадстаўнікі этнічных групаў: нямецкай, румынскай, туркестанскай, украінскай, кубінскай, харвацкай. Беларускія ўдзельнікі выйшлі з плякатамі й транспарантамі ў абарону палітычнага вязьня ў Менску Валерыя Сядова.

Удзел Беларусаў быў зарганізаваны Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем. Др. Вітаў Кіпель выступіў на мітынгу з кароткай інфармацыяй пра Валерыя Сядова. Беларускія ўдзельнікі, сярод якіх быў і старшыня галоўнай управы БАЗА сп. Антон Шукелойць, развадалі англамоўныя лістоўкі зь інфармацыяй пра В. Сядова і заклікам пісаць савецкаму пасольству ў Вашынгтоне і місіі БССР пры ААН у Нью-Ёрку з дамаганьнем вызваленьня Сядова, трыманага ў сьледчым ізалятары ў Менску за ўдзел у антыкамуністычнай маніфэстацыі 7 лістапада летась.



*Сядоў за кратамі*

## СЭН. ДЖ. ГЭЛМС ПРА СВАБОДУ БЕЛАРУСІ

На слуханьні ў Сэнаце ЗША ў справе зацьверджаньня новага пасла ў Маскву, дзеяча Дэмакратычнай партыі і прадпрыймальніка Робэрта Штраўса, сэнатар Джэсы Гэлмс, кансэрватыўны рэспубліканец са штату Паўночная Караліна, зазначыў, што амэрыканска-савецкія дачыненьні былі-б зусім добрыя, калі-б не камунізм. Сёньня нават пры эканамічным і сацыяльным разладзе СССР, сказаў сп. Гэлмс, гэтая дзяржава застаецца найбольшай пагрозай Злучаным Штатам, бо мае вялізарны арсэнал ядзернае зброі ды шырокую сетку міжнароднага шпіянажу. Сэн. Гэлмс адзначыў прыгэтым і зьмены на лепшае. У Савецкім Саюзе, сказаў ён, падабаецца гэта ваенным камісарам ці не, прыходзіць дэмакратычная рэвалюцыя, і гэтая рэвалюцыя ў канчальным выніку пераможа.

Сэн. Гэлмс сказаў, што дзеля таго, каб дачыненьні паміж ЗША і Масквой былі запраўды пазытыўныя, трэба каб адбыліся істотныя зьмены ўнутры савецкае імпэрыі. Прыкладам такой пазытыўнай зьмены сэнатар назваў аддаеньне свабоды балтыцкім рэспублікам, Арменіі, Грузіі, Малдове, Беларусі, Украіне.

## АМЭРЫКАНСКІ ДАРАДНІК УРАДУ БССР

Як падаў зь Менску 3 ліпеня сёлета ТАСС, амэрыканскі прафэсар унівэрсытэту ў Сан-Хозэ, Скот Норвуд, прыняў запросіны беларускага ураду ўвайсьці ў склад эканамічнае рады, на якую Беларуская рэспубліка ўскладае надзеі ў пераходзе да вольнага рынку. Праф. Норвуд, паводля ТАСС, мае высокую рэпутацыю сярод спэцыялістаў, ён рэдагуе канфідэнцыйны бюлетэнь для службовых асобаў у Вашынгтоне зь інфармацыяй пра эканамі стан у СССР.

## РЭГАБІЛІТАЦЫЯ «НАЦДЭМАЎ»

Летам мінае 60 гадоў ад часу, калі былі зробленыя прысуды першай хвалі «нацдэмаў» у Менску. У чэрвені 1988 году некаторыя справы з «працэсу» нацдэмаў» былі перагледжаныя. Вось вытрымкі ў перакладзе на беларускую мову: «Судовая калегія па крымінальным справам Вярхоўнага Суда БССР разгледзела пратэст Пракурора БССР адносна пастановы ОГПУ БССР ад 10 красавіка 1931 году, паводля якое С. Некрашэвіч, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, І. Краскоўскі, А. Цьвікевіч, А. Смоліч, П. Трэмковіч, В. Чаржынскі, І. Серада, В. Пракулевіч, А. Галавінскі, А. Васькевіч, Л. Заяц, А. Адамовіч (член таварыства «Узвышша») і Я. Кіпель на падставе параграфу 76 УК БССР (артыкулы 64, 65, 66, 67, 69, 70) высланыя на тэрмін 5-х гадоў у розныя гарады Савецкага Саюзу».

Асноўнае абвінавачаньне пакараным было тое, што яны нібы належалі да арганізацыі (якое ў запраўднасьці ня было) Саюз Вызваленьня Беларусі. У 1988 годзе Судовая Калегія па крымінальным справам пры Вярхоўным Судзе БССР паставіла: судовую справу вышэйназваных асобаў лічыць уняважненай дзеля адсутнасьці довадаў праступства вышейназванымі асобамі. Гэткім парадкам, 10 чэрвеня 1988 году, невялікая група беларускіх патрыётаў засуджаных некалі савецкай уладай была рэгабілітаваная Вышэйшым Судом БССР.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## *«БЕЛАРУСКІ АГЛЯД»*
## Інфарматар высокіх сфэраў

Выдаваны ў Каліфорніі Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем інфармацыйны квартальнік Byelorussian (Bielorusian) Review расьце ад нумару да нумару ня толькі лікам старонак і тэматычным дыяпазонам, але і сваёй чытацкай аўдыторыяй як у Менску, гэтак і ў Вашынгтоне. Пра гэта сьветчаць лісты, якія дастае рэдакцыя BR ад сваіх удзячных чытачоў. Гэтак, прыкладам, зь Менску пішуць студэнты, што яны карыстаюцца бюлетэнем і як інфармацыйнай крыніцай, і як свайго роду падручнай літаратурай для вывучаньня ангельскай мовы.

Лісты з падзякай за прысланыя нумары бюлетэню і з добрымі водгукамі пра ягоны зьмест прыйшлі апошнім часам ад Інфармацыйнага Агенцтва ЗША, Міністэрства абароны, такіх навуковых цэнтраў, як Гувэрская Інстытуцыя, Гарадзкі Каледж Нью-Ёрку, такіх перыёдыкаў, як тыднёвік «Тайм», поўгадавік «Вывучэньне нацыяльнасьцяў». У лісьце да рэдактара BR Джоў Прайса кангрэсмэн Стэні Гойэр, старшыня сэнацкае камісіі да справаў Гэльсынскага пагадненьня ў Эўропе, падзякаваў за прысланыя нумары бюлетэню, папрасіў падаць яму адрасы беларускіх арганізацыяў у Амэрыцы і згадаў, між іншага, што дэпутаты ВС БССР З. Пазьняк, Ул. Заблоцкі і Л. Баршэчўскі, якія ў красавіку сёлета наведалі Вашынгтон, пакінулі па сабе трывалы сьлед. «Працаўнікі Дзяржаўнага Дэпартаманту, — зазначыў у сваім лісьце кангрэсмэн С. Гойэр, — паведамілі, што сп. Пазьняк і ягоныя калегі пакінулі па сабе добрае ўражаньне і асьветлілі шмат якія аспэкты палітычнае сытуацыі ў Беларусі, на якія раней звярачалася мала ўвагі».

Апошні нумар BR (вясна 1991) поўнасьцяй апраўдвае і замацоўвае салідную рэпутацыю, якую выдаўцы гэтага вартаснага бюлетэню забясьпечылі сваёй публікацыі. У нумары на 24 старонках уборыстага друку чытач знойдзе апісаньне бурных падзеяў у Беларусі ў красавіку сёлета; інфармацыю пра 2-і зьезд БНФ, пра сьвяткаваньне 25 у Сакавіку ў Менску; дадзеныя пра беларускіх работніцкі рух. Цікавы артыкул Джоў Прайса, галоўнага рэдактара BR, «Палажэньне ў Беларусі: змаганьне пачынаецца». У артыкуле А. Турэвіча «Беларусь — ейны ўрад і апазыцыя» разглядаюцца роля КПБ і дачыненьні паміж БССР і «Цэнтрам», праца ВС БССР, дзейнасьць апазыцыі. У рыбрыцы «Спадчына Чарнобыля» — шмат выказваньняў з заходняга друку на гэтую тэму. Новая рубрыка «Форум Беларусі» зьмяшчае цікавы матар'ял зь беларускай прэсы, афіцыйнай і незалежнай. Артыкул Я. Крэўскага ў рубрыцы «Фрагмэнты зь беларускай гісторыі» насьвятляе «асноўную тэму беларускай гісторыі — значаньне й паходжаньне Літвы» (водгук на артыкул Г. Сагановіча ў бюлетэні «Наша Слова»). Папулярная рубрыка «Агляд прэсы» гэтым разам вельмі абшырная. У рубрыцы «Беларусы за мяжой» апісваецца падарожжа народных дэпутатаў З. Пазьняка, Ул. Заблоцкага і Л. Баршчэўскага ў ЗША і Канаду. Успомненыя сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Амэрыцы, Канадзе, Аўстраліі і Польшчы.

У канцы нумару апісаныя звароты рэдакцыі бюлетэню да амэрыканскіх палітычных дзейнікаў у справе арганізацыі беспасярэдняй дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі ды наладжаньня авіясувязі паміж ЗША і Менскам.

## КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ЛЮБЛІНЕ

Ад 18-га да 20-га чэрвеня ў горадзе Любліне, у Польшчы, адбывалася навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная вывучэньню гістарычнага разьвіцьця чатырох усходня-эўрапэйскіх народаў былой Рэчы Паспалітай: беларусаў, палякаў, летувісаў і украінцаў. Арганізатарамі канфэрэнцыі былі Люблінскае Таварыства Прыяцеляў Навук, Навуковая Асацыяцыя «Паміж Усходам і Захадам» ды колькі вышэйшых навучальных установаў гораду Любліну. Галоўнай тэмай канфэрэнцыі было — нацыянальнае адраджэньне ды сёньняшнія дачыненьні між чатырма народамі былой рэчы Паспалітай.

У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Вітаўт і Зора Кіпель), навукоўцы Акадэміі Навук БССР — праф. Адам. Мальдзіс, Генадзь Сагановіч, Ігар Бабкоў, Захар Шыбека, Сьвятлана Грэчухіна, Ірына Лаўроўская, беларусы-прафэсары польскіх унівэрсытэтаў: Мікола Іваноў з Вроцлаўскага, А. Мірановіч зь Беластоцкага, а таксама старшыня Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня ў Польшчы — Сакрат Яновіч. Беларускія дасьледнікі чыталі рэфэрат ў сэкцыях: палітычны рух на Беларусі ў 20-м стагодздзі, разьвіцьцё беларускае літаратуры ў 16-м стагодздзі, гістарычнае разьвіцьцё праваслаўнае і каталіцкае рэлігіяў на Беларусі, ды насьвятленьне гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў школьных падручніках. На пленарных паседжаньнях канфэрэнцыі членамі прэзыдыюму былі пачаргова беларускія прадстаўнікі: д-р Адам Мальдзіс зь Менску і д-р Вітаўт Кіпель зь Нью Ёрку.

Як паведамляе арганізацыйны камітэт канфэрэнцыі, наступная канфэрэнцыя прысьвечаная гісторыі Вялікага Княства Літоўскага адбудзецца ў 1992 годзе ў Камянец Падольску на Украіне, канфэрэнцыя 1993 году плянуецца на Беларусі ў Пінску.

Карэспандэнт

## ЗЬЕЗД ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ




*Таварыства Беларускай Мовы*

У Менску 14-15 чэрвеня адбыўся Другі зьезд Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Асноўнай накіраванасьцю зьезду было заклапочаньне станам беларускае мовы ды аб'яднаньне беларускіх сілаў у барацьбе за захаваньне беларускае мовы. Дзесяткі дакладчыкаў падкрасьлялі анармальны стан зь беларускай мовай у рэспубліцы: нягледзячы на прыняты дзяржаўнымі ворганамі закон аб беларускай мове, гэты закон найбольш, ды дэманстрацыйна ня выконваецца самымі ўрадоўцамі. Дакладчыкі таксама сьцьвярджалі ненармальнае зьявішча, што ў рэспубліцы павялічыўся лік расейскамоўных пэрыядычных выданьняў, некаторыя беларускамоўныя часапісы пачалі друкаваць матар'ялы парасейску, у той час як беларускамоўным выданьням і далей не хапае паперы. Праўда, як выглядае зь некаторых справаздачаў крыху ўзросла прапорцыя беларускамоўных клясаў ды, асабліва ў раёнах, колькасьць беларускіх школаў. Дэталёвыя зьвесткі аб прабегу зьезду ТБМ выдрукаваныя ў газэце Наша Слова, у нумары 29-м, за 26 чэрвеня — 2 ліпеня сёлета.

За старшыню Таварыства Беларускай Мовы перавыбраны шыроказнаны беларускі пісьменьнік, навуковец і грамадзка-палітычны дзяяч сп. Ніл Гілевіч.

## ШАНОЎНЫЯ СПАДАРЫ

Як Вы ведаеце, у адпаведнасьці з Дэклярацыяй аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай ССР, прынятай Вярхоўным Саветам БССР у 1990 годзе, першачарговыя намаганьні Рэспублікі накіраваныя на выратаваньне беларускага народу ад чарнобыльскай бяды.

У 1990 і 1991 гадох Беларусь правяла вялікую, напружаную працу па арганізацыі міжнароднай падтрымкі ахвярам Чарнобыля, у тым ліку па зацвярджаньню ў рамках сыстэмы ААН Праграмы міжнароднага супрацоўніцтва ў мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

У верасьні гэтага году мае адбыцца падзея, якая ў многім прадвызначыць лёс гэтай Праграмы: 20 верасня ў штаб-кватэры ААН Генеральным Сакратаром ААН будзе праведзена Канференцыя па аб'яўленьню ўзносаў на мэты чарнобыльскай праграмы.

Мы працуем зараз над прыцягненьнем як мага большай колькасьці краін да ўнясеньня ўзносаў на гэтыя высока гуманныя мэты.

Будучы ўпэўненымі ў Вашых глыбокіх пачуцьцях да роднага народу, якому лёс зноў наканаваў найцяжэйшае выпрабаваньне на выжываньне, просім Вашага садзейнічаньня як амэрыканскага грамадзяніна.

Калі Вы і Вашы сваякі, сябры і знаёмыя пашлеце лісты ў Белы дом Прэзыдэнту ЗША пану Бушу з просьбай праявіць гуманную салідарнасць з ахвярамі Чарнобыля і ўнесьці ўзнос ЗША на маючай адбыцца Канфэрэнцыі, Вы зробіце добрую справу для свайго народу.

Спадзяемся, што лісты ў Белы дом будуць садзейнічаць фармаваньню спрыяльнай для беларускага народу пазыцыі адміністрацыі ЗША.

Мы са свайго боку прадпрыймаем у гэтым кірунку актыўнейшыя намаганьні па дыпляматычных каналах.

Г. Бураўкін,
Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол,
Пастаянны Прадстаўнік Беларускай ССР
пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый

## «ПОЛАЦАК» № 5

Як і папярэдні нумар, часапіс аформлены мастаком Андрэем Карпуком: на воклаладцы — партрэт Уладыслава Галубка, выдатнага тэатральнага дзеяча 1920-х гадоў, унутры — фатаздымкі, партрэты, дэкарацыйная графіка, плякат, прысьвечаны Антону Луцкевічу.

На 64-х старонках нумару зьмешчаныя мастацкія творы, артыкулы, нарысы: Р. Барадуліна, Ул. Арлова, А. Казловіча, С. Тарасава, В. Круталевіча, Э. Ялугіна, Я. Лецкі, С. Белай, эміграцыйных аўтараў Ю. Віцьбіча, М. Белямука ды інш.

❖ Бальшыня артыкулаў на тэму далёкае і блізкое мінуўшчыны. Дзьве аўтаркі, С. Анатольева і Л. Савік, зьмясьцілі біяграфічна-літаратураведныя нарысы пра беларускіх эміграцыйных пісьменьнікаў — М. Кавыля і М. Сяднёва.

У канцы нумары невялікі разьдзел хронікі зь беларускага жыцьця ў Кліўленьдзе, дзе часапіс выдаецца, і ў Чыкага.

## НОВЫ АНГЛАМОЎНЫ ЧАСАПІС ПРА БЕЛАРУСЬ

У штаце Флярыда пачаў выходзіць месячны англамоўны часапіс бізнэсовага профілю пра Беларусь. Ніжэй падаем дадзеныя аб часапісу ды ўмовах падпіскі.

**BYELORUSSIAN BUSINESS HERALD**

A monthly newletter in the U.S. published by *Belarus Publishing* and distributed by *Perberthy Enterprisess Inc.*

| | |
|---|---|
| Managing Editor | Alexander Volvachev |
| Associate Editor | Richard Penberthy |
| DP Editor | Gary L. White |
| Contributor | Igor Gukovski |

Subscription rates:
1 year $135.00
2 years $250.00

Copyright 1991 — Belarus Publishing
Reproduction in part or whole without written pervission from Belarus Publishing is prohibited.

*Гай Пікарда*

# ПАСЬЛЯ Х-ГА ГАЙНАЎСКАГА ФЭСТЫВАЛЮ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ

## Вітаем Гая Пікарду

*Плённага дасьледніка беларускай рэлігійнай і сьвецкай музыкі, выдаўца беларускіх сьпеўнікаў, шматгадовага актыўнага ўдзельніка беларускага жыцьця ў Лёндане, супрацоўніка «Беларуса» і вялікага ангельскага прыяцеля Беларусі з* ***60-мі ўгодкамі жыцьця****, што споўнілася 20-га ліпеня сёлета, і жадаем яму добрага здароўя, багатага плёну ў далейшай дасьледніцкай працы і ўсякай памыснасьці ў асабістым жыцьці.*

*Рэдкалегія «Беларус»*
*Управы БІНіМ і БАЗА*



*Гай Пікарда*

Найбольш запамяталіся мне зь 10-га Міжнароднага фэстывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы (16-19.V.91) адсьвяжальныя народныя песьні ў выкананьні хору з Нарвы (кір. а. А. Беламыжы) і дасканальнае выступленьне Беларускага дзяржаўнага хору радыё й тэлебачаньня (кір. В. Роўда). Хоць Рахманінаў і Часнакоў, бясспрэчна, выдатныя кампазытары, рэпэртуар «міжнароднага» фэстывалю царкоўнай музыкі выглядаў даволі-ткі аднабокім, калі ўлічыць, што з прыблізна 115 нумароў 83 прадстаўлялі расейскую традыцыю, 14 расейска-ўкраінскую школу (Галіччыня і Закарпацьце ня былі прадстаўлены), 9 беларускую, 6 баўгарскую, 2 польскую, 1 грэцкую і 0 сэрбскую. I калі памятаць, што адным з найлепш успрынятых нумароў было «Хвалите имя Господне» аўтарства добрага польскага каталіцкага кампазытара і аднаго з заснавальнікаў фэстывалю, Рамуальда Твардоўскага, пытаешся сябе самога: што сабой становіць, дакладна кажучы, праваслаўная музыка?

Відавочна, ці то самі яны, ці то на параду збоку, хоры Падляшша цьвёрда трымаюцца сынадальнае расейскае традыцыі, і ня было надзеі на тое, што гэтым разам беларуская музыка будзе ўведзеная ў рэпэртуар. Я заўважыў, як адзін ці два клерыкі нэрвова горталі старонкі менскага часапісу «Унія»... Я чуў таксама, што было спушчанае згары слова, каб падляшскія хоры не давалі ніякага «асаблівага месца» музыцы беларускіх кампазытараў. Было пакінута цудоўнаму расейскаму маладзежнаму хору Сірына з Масквы выканаць па-беларуску калядкі з акампанімэнтам лірніка і пад бурныя воплескі.

Галоўная перашкода для ўводу беларускага рэпэртуару ў праграму фэстывалю, чаго актыўна дамагаюцца такія хормайстры, як сымпатычны а. М. Нігірэвіч са Сьвята-Троіцкае царквы ў Гайнаўцы — гэта проста няведа.

Нам ведамыя прозьвішчы укладальнікаў, якія ў XVI-XVIII стст. запісалі старадаўныя беларускія напевы: «слуцкі», «віленскі», «мірскі» і іншыя ў кольках рукапісных сьпеўніках (ірмалоях), што захаваліся пасьля зьнішчэньня, праведзенага царскім стаўленьнікам Сямашкам пасьля 1839 году: гэта Багдан Анісімовіч з Супрасьля (1598 г.), Цімафей Куліковіч зь Белага Ковеля (1652), Пахомій Паценка са Слуцку (1669), Кірыл Ільінскі з Давыд Гарадка (1713), іераманах Тарасій зь Менску (1750) ды іншыя. На жаль, іхныя запісы раськіданыя і ўсе, за выняткам адно некалькіх, знаходзяцца вонках Беларусі, а значыцца, ня лёгка даступныя для вывучэньня.

Раньнія кампазытары нацыянальнага адраджэньня канца XIX-га ст. і да 1918 году былі ўключыўшыся ў беларускі этнаграфічны й фальклёрны рух, але іхны набытак сустрэла тая самая доля, што й іхных папярэднікаў. Дасюль яшчэ мала што ведама пра пакуты іхныя пасьля зачыненьня бальшавікамі царквы на Беларусі.

Міхал Анцаў (1865-1945), вучань Рымскага-Корсакава, сябра этнографаў Раманава й Нікіфароўскага і кіраўнік хору ў Віцебску, аўтар многіх апублікаваных гімнаў, быў змушаны апантанымі утапістамі пісаць пралетарскія гімны як адкупленьне за свае дарэвалюцыйныя ідэялягічныя памылкі.

Аляксей Туранкоў (1886-1958), найбольш паважаны з раньніх беларускіх царкоўных кампазытараў, быў бязьлітасна зацкаваны афіцыйным чыноўніцтвам. Калі яго ў часе тэрору 1930-х гадоў паклікалі выконваць рэвалюцынныя даручэньні, дык ягоны начальнік Любан расклаў перад ім на сталі ўсе ягоныя царкоўныя кампазыцыі, каб нагадаць яму былыя грахі ды змусіць падпарадкавацца. Туранковы патрыятычныя песьні, напісаныя ў часе нямецкай акупацыі, прыкончылі яго й забясьпечылі яму дзесяць гадоў Сібіру.

(Працяг на 6-й б.)



М. В. Анцаў



К. М. Галкоўскі



А. Я. Туранкоў



М. Равенскі



А. М. Валынчык



М. Куліковіч-Шчаглоў

*Беларускія кампазытары*

# 45-ТЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

8-га чэрвеня 1991 году у залі Беларускай бібліятэкі-музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане адбыўся агульны гадавы зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі.

У справаздачы уступаючай Галоўнай управы Янка Міхалюк зрабіў агляд дзейнасьці ЗБВБ на працягу 45-ці гадоў. Пералічыў першыя выданьні ЗБВБ — «На шляху», «Беларус на чужыне», ды пазьнейшыя — "Journal of Byelorussian Studies" выдаваны Англа-Беларускім таварыствам, а фінансаваны ЗБВБ. Шмат якія працы зь Беларусі былі друкаваныя у Лёндане за кошт нашай арганізацыі.

Зь дзейнасьці Харытатыўнай сэкцыі пры ЗБВБ здаў справаздачу скарбнік П. Асіповіч. Заўдзячваючы добраму адмінастраваньню маёмасьці ЗБВБ: дамоў, гаражоў, — стан фінансаў ёсьць задавальняючым, каб аказаць дапамогу ахвярам радыяцыі ў БССР. Скарбнік гэтаксама паведаміў, што А. Лашук заахвяраваў Харытатыўнай сэкцыі ЗБВБ 2700 фунтаў, навіна, якую аўдыторыя ўзнагародзіла апладысмэнтамі.

Уступаючая Управа была перавыбраная у наступным складзе: Я. Міхалюк, старшыня; А. Зданковіч, заступнік старшыні і сакратар; П. Асіповіч, скарбнік; М. Сенька, сябра управы. У наглядную раду былі выбраныя М. Швэдзюк, А. Ражанец і В. Міхалюк.

Аб важнасьці арганізацыі ЗБВБ гаварыў а. Надсон. Ён зазначыў, што быў сябрам ЗБВБ на працягу 45-ці гадоў і што арганізацыя і дзейнасьць яе ёсьць агульным дабром беларускага народу, дабром Беларусі. Цяпер маем магчымасьць мець супрацоўніцтва з Беларусьсю. Там ёсьць вялікая бяда — гэта Чарнобыль. Тут, у гэтай залі, награмаджаныя пачкі зь лекамі, якія 10-га чэрвеня паедуць на Беларусь. Гэта ўжо чацьвертая дастава неабходных лекаў і прыладў, якія будуць бесплатна здадзеныя ў шпіталі. У наступным месяцы ў Ангельшчыну прыбудуць 68 дзяцей з Чарнобыльскай зоны, якім мы уладзілі канікулы ў розных ангельскіх сем'ях. Усё гэта робіцца Харытатыўным камітэтам.

Праф. Наўмовіч падзяліўся з прысутнымі весткамі з беларускага жыцьця ў Францыі, зазначыўшы, што ў іх там ёсьць важныя дакумэнты з гісторыі Беларускай Вільні, якія павінны былі-б выданыя. На выданьне будуць патрэбныя грошы. Сп. Наўмовіч прасіў ЗБВБ пазытыўна разгледзіць гэтую патрэбу.

Сп. М. Швэдзюк падаў да ведама зьезду агалошаньне ў польскім дзёньніку, выдаваным у Лёндане, ад 2.4. 1991 "Apel polakow na Bialorusi". Гэтую адозву пашырае ў Англіі арганізацыя "Association of Polish Eastern Provinces", што азначае "Zwiazek Ziem Wschodnich" і яны ня маюць на ўвазе Беласточчыну альбо Холмшчыну, але Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Гэтыя людзі, як нам ведама, не прызнаюць Беларусі. Зьезд быў такой апініі, што вельмі пажадана, каб аб гэтым было паінфармавана сусьветнае беларускае грамадзтва, а, найважнейшае, Беларускі урад.

Шчыра вітаны быў Праф. Дж. Дынглі, які прыбыў сюды, — як ён зазначыў, — «пагутарыць на паважную тэму». Ён толькі вярнуўся зь Беларусі, прабыўшы там чатыры тыдні. Быў у Гомелі, Менску й Горадні, і мае новую інфармацыю пра агульны стан на Беларусі. У Ангельшчыне, на ягоную думку, вельмі патрэбная інфармацыя пра Беларусь. Інфармацыі пра яе нехапае нашаму, напрыклад, Ураду. Прадстаўнікі міністэрства і журналісты амаль нічога ня ведаюць пра Беларусь. Дзеля гэтага, у першую чаргу, вельмі важна запрасіць сюды дэлегацыю Вярхоўнага Савету БССР. Гэта павінна рабіцца праз брытанскіх парлямэнтарыяў. Дэлегацыя мусіць быць усебаковая, а ня толькі апазыцыя, бо гэта робіць яе поўнае ўражаньне.

Праф. Дынглі парушыў і іншую справу. У Ангельшчыне дзейная цяпер арганізацыя пад назовам "Know How Fund". Гэтая фундыцыя мае фінансавыя сродкі, якімі фактычна распараджаецца Міністэрства Замежных Спраў. Значная частка тых сродкаў прызначаецца ў першую чаргу на дапамогу краінам былое Савецкае Імперыі і Усходняе Эўропы: Польшчы, Чэхаславакіі, Вугоршчыны. Праўдападобна з тых фондаў можа быць прызначаная дапамога і для Беларусі, бо украінцы ўжо з гэтых фондаў карыстаюць. Мы, казаў праф. Дынглі, павінны думаць вобразна, формай ці катэгорыяй трыкутніка: Міністэрства Замежных Спраў — адзін бок трыкутніка, (там ёсьць сродкі з фундыцыі), другі бок трыкутніка — унівэрсытэты, яны могуць забясьпечыць навучаньне, дапамогу, а трэйці бок трыкутніка, закончыў праф. Дынглі — гэты ВЫ, ці то мы — беларускае грамадзтва.

Далей праф. Дынглі расказваў аб сваіх ураженьнях з пабыту ў Менску, дзе цяпер выказваецца вялікае зацікаўленьне беларускай дыяспарай ў сьвеце. Утварылася камісія, сябром якой стаўся й праф. Дынглі, і якая мае апрацаваць энцыклапэдычны даведнік аб беларускіх арганізацыях на эміграцыі.

Прысутныя падзякавалі праф. Дынглі за інфармацыйную «гутарку» шчырымі воплескамі.

Адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» зьезд закончыўся.

У суседняй зале быў удала падрыхтаваны сп-няй Л. Міхалюк падвячорак, на які былі запрошаны ўсе прысутныя. Належыць пры гэтым падзякаваць спні Н. Міхалюк, нявестцы сп-ва Міхалюк, за дапамогу з пачастункам.

**А. Зданковіч**

## АБ ПОШУКАХ СВАЯКОЎ У АМЭРЫЦЫ

Колькі часу таму ў беларускім савецкім друку паведамлялася, што ў Маскве была створаная арганізацыя, якая называлася «Архіў-сэрвіс», мэтай якое ёсьць пошукі сваякоў, ды генеалягічныя дасьледваньні як на тэрыторыі, гэтак і за межамі Савецкага Саюзу. Паведамлялася таксама, што і ў БССР будзе створаны філіял гэтае арганізацыі. Магчыма, што ў Менску і ёсьць арганізацыя, якая займаецца дасьледваньнямі радаводных сувязяў сем'яў параськіданых па сьвеце, аднак дзейнасьць ейная, выглядае ня шырака ведамая, бо нашыя землякі пішуць сотні лістоў да беларускіх эміграцыйных арганізацыяў ды паасобных суродзічаў з просьбай расшукаць сваіх блізкіх. У сярэдзіне дваццатых гадоў гэтым займалася на Беларусі Таварыства Беларускага Чырвонага Крыжу.

Было-б пажадана, каб і цяпер на Беларусі арганізацыі, як Чырвоны Крыж, ці іншыя аддаліся-б справе пошукаў сваякоў. У сваю-ж чаргу радзіцца нашым суродзічам пісаць у справах пошукаў родзічаў на беларускія арганізацыі гэтак і на амэрыканскія ўстановы як:

Family History Dept.,
Church of Jesus Christ
50 E. North Temple
Salt Lake City, UT 84150

# МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСІСТАЎ

**Менск, 25-27 травеня 1991 г.**




Вітаўт Кіпель

## ЗНАЁМСТВА З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ ПАСЬЛЯ 58-Х ГАДОЎ

На адно з пытаньняў журналісткі у Менску — «ці Вы адразу вырашылі адведаць Беларусь, калі атрымалі запросіны на Кангрэс Беларусістаў?», я шчыра адказаў, што не адразу, а доўга думаў. Фактычна, гэта ня было раздумоўваньне, а хутчэй прыпамінаньне жыцьцёвага шляху ды горкае асэнсаваньне прычынаў — чаму я жыў 58 гадоў паза Беларусьсю, дзе я нарадзіўся ў 1927 годзе. Я зь Менску. З раньняга дзяцінства захаваліся найбольш няпрыемныя абразкі: мы з маці стаім у даўгой чарзе перад будынкам «з перадачай» бацьку. Потым паходы ў гэты дом спыніліся, а мне маці сказала, што «тату вывезьлі». Пазьнейшыя мае ўспаміны зьвязаныя з падарожжам праз Маскву, Казань, Вяцкія Паляны прыстань Мядзьведкі і нейкі горад Налінск. У Налінску людзі гутарылі інакш як у Менску і мне мама сказала, каб і я вучыўся гэтае мовы. Памятаю яшчэ, калі мы выяжджалі зь Менску, я моцна плакаў разьвітваючыся зь дзедам, але маці мяне заспакойвала, што нам дазволяць прыяжджаць да дзеда. Цяжка мне даваўся той палітычны лексікон: высылка, нацдэмы, перапіска, дазвол на прапіску і г.д. У Налінску бліжэйшымі сямейнымі сябрамі ў нас былі «дзядзі» Азбукін і Улашчык. Гуляючы разам з бацькам па беразе рачулкі Воя, мяне і бацька і дзядзі вучылі вершам і песьням: «Мулер, слухай, што кладзеш ты?», «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «У нядзелю раненька», «Гэй, сябры удалыя» і г.д. Пазьней мы жылі ў горадзе Кіраве, дзе жыў сп. Адамовіч, а потым прыехалі ў горад Арол. Мне было 8 гадоў. На Беларусь нам ехаць было забаронена. Бацька «атрымаў» пяць гадоў БАМу, і жыў каля гораду Свабоднага, на 48-й калёне. Да дзеда езьдзіць «дазвалялі» але трэба было «заяўляцца» у міліцыі. Потым паездкі ў Менск спыніліся, а ад дзеда адабралі хату, як ад цесьця ворагу народа.

Далей у памяці ўставалі цяжкія гады вайны, а ад 1944 году — эміграцыя. Розныя краіны — Заходняя Нямеччына, Бэльгія, наездамі Францыя, Ангельшчына ды Злучаныя Штаты Амэрыкі — краіна сталага пасяленьня. Жыцьцё ў Амэрыцы ў памяці пераплятаецца з тысячамі зборак, канфэрэнцыяў, дзейнасьцю дзесяткоў арганізацыяў, навукова-палітычнай працай — усё для беларускае справы, усё на ідэалягічнай базе Адраджэньня Беларускае Дэмакратычнае Дзяржаўнасьці. Вось гэткія думкі замігцелі ў мяне ў галаве, калі я атрымаў запросіны на кангрэс. Ды адначасна я рэалізаваў, што хоць улада на бацькаўшчыне, улада савецкая, пазбавіла мяне магчымасьці працы і жыцьця на Беларусі, але-ж ніякая ўлада не змагла мне забараніць працаваць для бацькаўшчыны паза бацькаўшчынай. А жыцьцё на эміграцыі — гэта было жыцьцё для Беларусі, для беларускае справы. І таму, калі зьявілася магчымасьць адведаць бацькаўшчыну, нягледзячы на эмацыянальныя ўспаміны, я ацаніў гэтую падзею, як далейшы, новы крок на шляху працы для бацькаўшчыны. На мой пагляд, трэба думаць халодна, рацыянальна. Пагатоў, Беларусь сёньняшняя, гэта Беларусь інакшая. Гэта Беларусь на шляху адраджэньня, на шляху здабываньня палітычнага сувэрэнітэту, незалежнасьці. Ды асноўнае — Беларусь з новымі маладымі кадрамі. Запросіны на кангрэс давалі магчымасьць азнаёміцца з сёньняшняй, узноўленай, творчай Беларусьсю. І таму мы, беларусы-амэрыканцы, запрошаныя на Першы Кангрэс Беларусістаў: Зора Кіпель і аўтар, Ян Запруднік, Васіль Мельяновіч і наш блізкі сябра прафэсар Том Бэрд, запросіны на Кангрэс прынялі з прыемнасьцю і ехалі ў Менск з уздымам і спадзяваньнямі новага ў працы для Беларусі. І, думаю, мы не памыліліся.

Вось колькі ўражаньняў зь Менску. Вельмі прыемнае было спатканьне на аэрадроме. Знаёмствы зь дзесяткамі асобаў, якіх ведаў толькі па друкаваных працах ды ліставаньні. Абмен думкамі, інфармацыяй, ды пошуках новых матар'ялаў. Дзесяткі цікавых рэфэратаў на Кангрэсе, дарэчы, пажадана было-б каб у будучыні даваўся-б час на дыскусіі, пытаньні, адказы. Наагул можна было-б працоўныя сэсіі Кангрэсу прадоўжыць. Надзвычай важным і карысным быў для мяне візыт у Дзяржаўную Бібліятэку ды знаёмства з усім беларускім персаналам, якім я абяцаў прыслаць эміграцыйныя друкі. Бясспрэчна, незабыўныя застануцца наведаньні блізкіх мясьцінаў гораду ды сустрэчы, хоць і з далёкімі, але цяпер блізкімі сваякамі. Наагулжа, я ўважаю, што Кангрэс Беларусістаў даў пачатак нечаму новаму-супольнай працы людзей адданых Беларусі, беларусістаў сьвету.

Зора Кіпель

## КАМОК ПАД ГОРЛА, АЛЬБО ДЗЕ БАЦЬКАЎШЧЫНА?

Калі я рабіла інтэрв'ю з моладзьдзю, якія толькі прыехалі з падарожжа на Беларусь, маё стандартнае пытаньне было: якое было вашае першае ўражаньне калі вы апынуліся на Беларускай зямлі? Адказы былі розныя, найчасьцей не падобныя адзін да другога, як і павінна быць у маладых людзей, якія маюць сваю думку і ўспрыймаюць рэчы індывідуальна, а не калектыўна.

Камок пад горла хутка ўсё-ж падступіў і нават уздрыганулі плечы. Было гэта ў першы дзень адчыненьня Кангрэсу Беларусістаў, калі цудоўная акадэмічная капэла засьпявала Дубоўкава «О, Беларусь, мая шыпшына» ды «Магутны Божа» нашай Натальлі Арсеньневай.

Пазьней невялічкія экскурсіі па гораду, а менавіта, па Камароўцы, крыху адбілі ў памяці стары, знаёмы Менск,



*Акадэмічная капэля выконвае «Магутны Божа». Фота Я. Запрудніка*

Гэткае-ж пытаньне задала я й сама сабе. Вось-жа мой адказ: першае ўражаньне было — поўная дэзарыентацыя. Пакінула я Беларусь, Менск у руінах, зьнішчаны, спустошаны. Зразумела, што я не спадзявалася ўбачыць руіны — я дастаткова ведала з прэсы, з кніжак, са здымкаў як быў разбудованы й адноўлены Менск — але я спадзявалася што хутка зарыентуюся, хутка але не на столькі, каб камок пад горла падыйшоў.

Супраўднае расчуленьне прыйшло, калі я спакталася з родзічамі ў Глыбоччыне; калі я наведала старыя вясковыя могілкі дзе пахаваныя дзед і бабка з боку майго бацькі; калі я абняла цёцю Нюту, якой цяпер ужо 96 гадоў, але якая мае сьветлы розум і памяць, мае здаровыя вочы, слых і ногі;


*Зора і Вітаўт Кіпелі на Кангрэсе ў Менску. Фота В. Мельяновіча*

знайду нешта знаёмае. Але асабліва чаго я спадзявалася найболей — гэта апынуцца ў Беларусі, дзе ўсе гавораць маёй мовай, адчуць, сябе дома, на Бацькаўшчыне. Наіўныя спадзяваньні — бо я-ж ведала рэчаістасьць — але тым ня менш спадзяваньні і, расчараваньні.

Першы камок пад горла не падыйшоў, як мяне папераджалі жанчыны, якія былі ўжо на Беларусі, калі стюардэса ў самалёце будзе вітаць нас у «Сінявокай Беларусі». Ці-то стюардэса забылася, ці-то гэта не стандартнае прывітаньне, але я гэтага спадзяванага прывітаньня не атрымала, як і не пачула амаль нідзе беларускай мовы на вуліцах беларускай сталіцы.

калі я зь імі гаварыла па-беларуску, як са сваімі некалі бацькамі; калі мы адзін другога разумелі з паў-слова. Тады я зразумела, што Бацькаўшчына там дзе твая сям'я, твае родныя, зь якімі ў цябе ёсьць супольная мова.

А калў падумаеш, што твая найбліжэйшая сям'я тут, у Амэрыцы, дык так і вынікае, што твая Бацькаўшчына ўжо гэтаксама й тут, тут ужо пусьцілі карані. А для сваёй далёкай Бацькаўшчыны я магу й мушу перахаваць мову, працаваць навукова, рабіць літаратурныя пошукі, пісаць — папулярызаваць беларускую культурную й літаратурную спадчыну.

Так выглядае, што ў наш час можна мець дзьве Бацькаўшчыны.

## Водгукі ў друку

Пра Кангрэс Беларусістаў ды гадавы зьезд Таварыства Беларускай Мовы шырака пісалася ў беларускім савецкім друку, перадавалася па радыё ды тэлебачаньню. Былі зробленыя й выдрукаваныя інтэрвію з беларусамі-амэрыканскімі ды іншымі замежнымі дэлегатамі ў газэтах Голас Радзімы (6, 20, 27 чэрвеня), Звязда (10 ліпеня), Народная Газета (5, 7, 8 чэрвеня), Ніва, Беласток (23 чэрвеня, 7 ліпеня), Знамя юности (чэрвень).

**БССР гатовая да супрацоўніцтва**

Паводля газэты The Hallandale Digest, Miami, July 11, 1991, Савецкая Беларусь гатовая ўступіць у індустрыяльныя вытворчыя супалкі з амэрыканскімі фірмамі ў блізу дзесятку відаў прамысловасьці.

# а. НАДСОН З ДАПАМОГАЙ У МЕНСКУ

Другі год працуе Беларускі Камітэт Дапамогі Ахвярам Радыяцыі ў Лёндане. Але за такі кароткі тэрмін былі зарганізаваныя аж тры транспарты зь лекамі на Беларусь. І вось 13 чэрвеня айцец Аляксандар Надсон зноў у Менску.

— Галоўная мэта чацьвертага прыезду — расказвае а. Надсон — прывезьці лекі для дзяцей ахвяр чарнобыльскай бяды. Гэтым разам нас прыехала траіх — акрамя мяне спадар Міхась Баяроўскі, які быў са мною таксама ў мінулым годзе й другі беларус з Лёндану, спадар Сяргей Дзейка. Ехалі мы фургонам праз усю Эўропу, як заўсёды. Прывезьлі з сабой лекаў для розных бальніцаў, паводле просьбаў лекароў, прыблізна на 15 тысячаў фунтаў. Пераважна гэта лекі супроць леўкеміі, вельмі дарагія. Але лекі гэтыя — адзіная надзея дзетак, якія хворыя, каб даць ім курс лячэньня.

У асноўным, лекі пайшлі ў гематалягічны цэнтр у Менску і ў дзіцячы гематалягічны аддзел Гомельскай вобласнай бальніцы ды ў анкалягічны цэнтр у Менску. Госьці таксама езьдзілі ў раённыя бальніцы ў Хойнікі й Брагін.

— Гэтыя бальніцы маюць іншыя патрэбы — паведаміў а. Аляксандар-антыбіотыкі, анальгэтыкі, вітаміны. Мы адведалі гэтым разам іншыя асяродкі і сабралі таксама больш інфармацыяў: былі ў Аксакаўшыне, у дзіцячай анкалёгіі ў Бараўлянах, мейсца, якое зрабіла вельмі прыгнятальнае ўражаньне. Там дзеці ў вельмі цяжкім стане.

Аляксандар Надсон таксама пабываў у пасёлку «Дружны», дзе жывуць перасяленцы з «Прыпяці». Ён адзначыў, што Чарнобыль выклікаў вельмі шмат праблемаў, ня толькі захворваньняў, але й сацыяльных праблемаў, і што патрэбна яшчэ шмат часу й добрай волі, каб гэтыя перасяленцы маглі ўліцца ў нармальнае жыцьцё.

— Бязумоўна, ніколі ня зробіш усяго што хацелася, — сказаў айцец Аляксандар — у Магілёў так і не даехаў. Гэта ўжо наступным разам. Шмат спаткаў добрых людзей, якія стараюцца дапамагчы, шмат рабіць.

Дзякуючы клопатам а. Надсона і Лігі Жанчын Беларусі хутка паезде на адпачынак у Англію група беларускіх дзетак.

Госьці з Ангельшчыны прынялі ўдзел з ІІ-м зьезьдзе Таварыства Беларускай Мовы, 14-15 чэрвеня ў Доме літаратара. Асабліва запомніліся словы а. Аляксандра да дэлегатаў зьезду: «У вялікай сымфоніі сусьветаў кожны з нас, кожны народ мае сваё мейсца, і кожная мова мае сваё мейсца. Забярыце гэта і ўжо будзе фальшывая нота. У гэтым сэнсе беларуская мова, беларуская культура й беларускі народ маюць сваё мейсца ў агульнай сымфоніі на славу Божую. І таму мы ня толькі маем права, але й абавязак славіць Бога на нашай мове.»



*Мікалаеўшчына, дом Уладзімера Міцкевіча. Айцец Надсон са сваякамі Я. Коласа: Марыя з сынам Васілём, цётка Жэня і Галя. Фота Ул. Кармілкіна*

Гасьцей з Ангельшчыны цёпла сустрэлі і ў доме сям'і народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Трэба адзначыць, што ў доме Даніны Міцкевіча былі ў красавіку Мікола Прускі і прадстаўнікі International Aid зь Мічыгану, а раней, у траўні — Томас Бэрд, Дж. Дынглі і іншыя паважаныя госьці з кангрэсу беларусістаў.

З дапамогай музэю Якуба Коласа для а. Аляксандра Надсона было зарганізавана падарожжа па коласаўскім мясьцінам — Акінчыцы, Альбуць, Мікалаеўшчына — мясьцінам вельмі прыгожым і дарагім для кожнага Беларуса.

**Марыя Міцкевіч, унучка Я. Коласа**

---

## ШАНОЎНЫЯ СУАЙЧЫНЬНІКІ!

Мы вымушаныя звярнуцца да Вас за дапамогай у сувязі з цяжкім захворваньнем нашай адзінай дачкі — сямігадовай Ірачкі. Яна пакутуе на цяжкае захворваньне печані — цырроз. Выратаваць яе можа толькі перасадка печані. На жаль у СССР дзецям не праводзяць падобных апэрацый.

Прафесар Sheila Sherlok а Лёнданскага Каралеўскага шпіталя гатовая зрабіць Ірачцы аперацыю, кошт якой складае 60 тысяч фунтаў стэрлінгаў.

На вялікі жаль, сеньня мы не ў стане зарабіць такую колькасьць валюты ў СССР. Мы будзем Вам вельмі удзячныя за магчымую дапамогу.

Нумар валютнага рахунку Беларускага аддзяленьня Савецкага Дзіцячага Фонду ў Знешэканомбанку СССР у г. Мінску N/000707901 (для Навышэўскай Ірыны).

З павагай — сям'я Навышэўскіх.

БССР, г. Мінск, 220004
ул. Рэспубліканская
д. 7, кв. 26.

Марыя Міцкевіч

# УСПАМІНЫ ПРА БАЦЬКУ

Вельмі цяжка пісаць пра блізкага чалавека, калі яго ўжо нямя сярод нас. А яшчэ цяжэй даваць ацэнку жыцьцёвага шляху. Калі чалавек жыве й працуе мы заўважаем толькі недахопы й памылкі. І толькі пасьля сьмерці пачынаем успамінаць пра ўсё добрае, што было зроблена для людзей і ацэньваць гэта.

Так ёсьць із маім бацькам. Уладзімірам Міцкевічам, пляменьнікам Коласа. Быў ён шматгадовым настаўнікам і кіраўніком Філіялу Музэя Я. Коласа ў Смольні. Жыцьцё яго было досыць складанае, а складанасьць гэтая заключалася ня толькі ў тых цяжкіх абставінах, у якіх яму прыходзілася жыць, але й ў асаблівасьці яго характару й жыцьцёвага крэда. Яму уласьцівы такія рысы, як чэснасьць, праўдзівасьць, непадкупнасьць, працаздольнасьць і уменьне знаходзіць малавядомыя факты з жыцьця й творчасьці Коласа. Гэтыя рысы й дапамаглі яму стацца плённым дасьледчыкам літаратурнай дзейнасьці паэты.

Больш за 20 гадоў аддаў ён вывучэньню й папулярызацыі спадчыны Коласа. Працуючы настаўнікам у Мікалаеўскай школе, якую дарэчы пабудаваў Колас у 1948 годзе, ён заснаваў школьны музей у імя паэты, свайго славутага земляка. Гэты музэй дзейнічае й па сёньняшні дзень. З 1965 году ён становіцца адным з першых арганізатараў і выканаўцаў будаўніцтва філіялу музэю паэты ў Смольні, і нязьменным яго кіраўніком да выхаду на пэнсію. Дзякуючы ягоным дасьледаваньням было ўстаноўлена шмат няведамых деталяў з жыцьця й творчасьці Коласа. Ім зроблена апісаньне ўсіх коласаўскіх мясьцін. Многія з іх былі адноўленыя й упарадкаваныя. Напісаў успаміны пра паэта, яго сваякоў, землякоў і сяброў. Выявіў цікавыя зьвесткі аб прататыпах герояў у творах Коласа. Так ён устанавіў, што сябра песьняра А. А. Сянькевіч быў прататыпам двух клясычных твораў беларускай і расейскай літаратураў — «На ростанях» Я. Коласа (Алесь Садовіч) і «Разгром» А. Фадзеева (доктар Сташынскі). Справа ў тым, што пасьля разгону настаўніцкага нелегальнага зьезду ў 1906 годзе А. Сянькевіч эмігруе ў Амэрыку, дзе закончыў вышэйшую мэдыцынскую школу й працаваў лекарам. Калі ў Расеі пачынаецца рэвалюцыя, ён вырашае вярнуцца на бацькаўшчыну. Паколькі праз Эўропу нельга было праехаць дзеля вайсковых дзеяньняў — ён дабіраецца праз Уладзівасток, дзе яго й застала вайна з белай гвардыяй. Трапляе ў партызанскае злучэньне С. Лазо — лечыць раненых. У гэтых-жа партызанах знаходзіўся й А. Фадзееў, які апісаў Сянькевіча ў аповесьці «Разгром».

Бацькам таксама была ўстаноўлена дата ўзьнікненьня яго роднай вёскі Мікалаеўшчыны (1555 год), дата адчыненьня першай школы ў вёсцы, 100-годзьдзе якой адзначалася ў 1965 годзе. Ён не цураўся ніякай працы, а выконваў усё старанна й сумленна. Ён мог збудаваць дом, паправіць гадзіньнік, радыяпрыёмнік, тэлевізар. І не было адбою ад суседзяў і родных, а адмовіць ён нікому ня мог.

Асаблівую ролю ў ягоным жыцьці адыграў філіял музэю Я. Коласа. Для бацькі ён быў нават больш чым жыцьцё. 20 гадоў працы без адпачынку. Філіял працаваў без выходных дзён. Нават ужо вечарам, калі прыязджала якая-небудзь дэлегацыя, то пасьля тэлефоннага званка ў Смольню, ён садзіўся на самакат і ехаў праводзіць экскурсію. Памятаю, як аднойчы прыехала група немцаў з перакладчыкам, які ня вельмі ўдала перакладаў, дык бацьку прыходзілася па-нямецку ўдакладняць. Веданьне моў (ён навучыўся іх у польскай гімназіі й у Інстытуце замежных моў) дазволіла яму ў часе вайны адвесьці гібель аднасяльчан, якіх немцы хацелі адправіць у Нямеччыну, або можа й растраляць. Як успамінае яго стрыечны брат Віктар, калі яго затрымаў немец і вёў у камэндатуру, то мой бацька, рызыкуючы жыцьцём, бо немец пагражаў аўтаматам, падбег да афіцэра й растлумачыў, што гэты чалавек ня мае ніякіх дрэнных намераў і што яго трэба пусьціць. Пераканаўшыся, немец гэта й зрабіў. Другі выпадак з Кастусём Стома (вясковая клічка Сэтра) які да вайны працаваў у Менску, але ў пачатку вайны вярнуўся ў Мікалаеўшчыну. Немцы палічылі яго за шпіёна й вырашылі арыштаваць. Жонка Стомы галосячы прыбегла да бацькі й просіць: «Валодзечка, ратуй!». І бацька пайшоў да старшага камандзера, растлумачыў панямецку, што Стома ніякі ня шпіён, а карэнны жыхар вёскі й усе яго тут ведаюць. Немцы Стому пусьцілі. Такіх выпадкаў было шмат.

Калі-ж гаварыць пра настаўніцтва, то мог ён выкладаць лацінскую, беларускую, расейскую й польскую мовы, альгебру, геамэтрыю ды фізыку.

Пачатак яго жыцьця быў зьвязаны з выбухам Першай сусьветнай вайны. У далёкай Украіне ў невялічкай станцыі Александраўск, кудь уцяклі з Беларусі яго бацькі, ратуючыся ад голаду, 8 лютага 1914 году ён нарадзіўся. Калі галодная сьмерць касіла ўсю Украіну, вярнуліся ў родную Мікалаеўшчыну, якая ўжо тады апынулася пад Польшчай. У 1935 годзе Уладзімір закончыў польскую гімназію ў Стоўпцах і працаваў у валаснай управе. Пасьля зняцьця Саветамі Заходняй Беларусі, працаваў настаўнікам у родным сяле. А тут ізноў ліхалецьце — пачалася 2-я сусьветная вайна. У армію яго не пасьпелі узяць з прычыны хуткага наступу немцаў.

Пасьля вайны йзноў пачынае працаваць настаўнікам. Цяжкое было жыцьцё. Прыходзілася, як кажуць, ледзьледзь зводзіць канцы з канцамі. Не хапала харчоў, адзеньня. Трэба было ня толькі рыхтавацца да лекцыяў, правяраць сшыткі, але й займацца гаспадаркай, каб пракарміць сям'ю. Тым ня менш ён знаходзіў час рыхтавацца да экзаменаў у Інстытуце замежных моў, які пасьпяхова закончыў у 1954 г. Карыстаўся аўтарытэтам сярод другіх настаўнікаў, асабліва маладых. Усе цягнуліся да яго, бо заўсёды маглі ад яго атрымаць добрую параду. Памяць у яго былы надзвычайная. Калегамі настаўнікамі неаднаразова выбіраўся старшынём школьнага камітэту прафсаюзу. Бацькавая прынцыповасьць ня раз і шкодзіла яму, асабліва ў дачыненьнях з раённымі уладамі.

Калі зьявіўся належны прадаўжальнік ягонай справы, бацька пачаў зьбірацца на адпачынак. Гэта быў Сяржук-Вовош — выпускнік БДУ. Цяпер ён стаўся знакамітым паэтам, кампазітарам і сьпеваком. Аднойчы, пасьля таго, калі Сяржук з сваімі сябрамі адзначалі народнае сьвята Купальле (якраз супадае з пачаткам 2-й сусьветнай

*(Працяг на 6-й б.)*

# ПАСЬЛЯ X-ГА ГАЙНАЎСКАГА ФЭСТЫВАЛЮ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

Мікола Равенскі (1886-1953), вучань Іпалітава-Іванава і хормайстар, разам з Чуркінам адзін зь вядучых зьбіральнікаў фальклёру, на працягу колькіх гадоў жыў стэрарызаваны пасьля таго як ягоны лібрэтыст Уладзімер Дубоўка стаўся ссыльным. Равенскі прадбачліва пакінуў Менск разам зь Немцамі і за свае пакуты быў акаваны на забыцьцё савецкім музычным эстаблішмэнтам.

Такая-ж доля спаткала й Міколу Куліковіча-Шчаглова (1897-1969), вучня А. Кастальскага, і таленавітага калішняга студэнта Варшаўскае кансэрваторыі Антона Валынчыка (1896-), тымчасам як няшчасны каталіцкі аўтар гімнаў і вучань Глазунова К. Галкоўскі (1875-1963) быў хітра сьпісаны ў «летувіскія» кампазытары.

Нават у пэрыядзе гэтак званае галоснасьці іхны важны ўклад у беларускую музычную скарбніцу замоўчваецца афіцыйнымі дзейнікамі, каб не пярэчыць паглядам нейкага там старога партыйнага зашыбайлы.

Вынік усяго гэтага такі, што ў музычным сэньсе Праваслаўная Царква ў Беларусі і Польшчы засела ў традыцыі Маскоўскага Патрыярхату, які глядзіць на «крэсы» — падобна, як тыя пінскія выдаўцы, што выдалі пераважна расейскі «Обиход» (1929 г.) — як на край для місіянерскае дзейнасьці, вотчыну праўдзівага расейскага праваслаўя.

Але часы мяняюцца. Нядаўнае наведаньне беларускага «закутка» Маскоўскім Патрыярхам Алексіем II-м — упяршыню за тысячагодзьдзе — і выступленьне па-беларуску Папы Яна Паўла II-га ў Беластоку паказваюць на тое, што царкоўныя колы адчуваюць усё больш дамаганьні Беларусаў, каб Царква ў Беларусі выяўляла больш нацыянальную сьведамасьць.

Адроджваная Грэка-Каталіцкая Царква, што налічвае больш за 20 прыходаў, з гатовасьцяй ўвяла Беларускую як мову літургіі, і людзі займаюцца пошукамі рэлігійных твораў сваіх нацыянальных кампазытараў. Больш паказальнай, бадай, сталася пастава прафэсійных сьвецкіх хораў, якія ўводзяць у свой рэпэртуар і папулярызуюць нацыянальную рэлігійную спадчыну.

На Міжнародным кангрэсе беларусістаў у Менску (25-27 траўня) хор АН БССР (кір. Тамара Слабодчыкава) выканаў Куліковічаву гарманізацыю жыровіцкага напеву XVII ст. і ягоны Вялікі канон зь літургіі сьв. Яна Хрызастома пад даўгія воплескі й выкрыкі «брава» з боку міжнароднай аўдыторыі. Паўторнае выступленьне гэтага хору ў Таліне таксама было цёпла ўспрынятае. Гэтак-жа былі сустрэтыя выступы маладога, але ў высокай меры эфэктыўнага Дзяржаўнага камэрнага хору зь Менску (кір. А. Лапцёнак і І. Мацюкоў) на міжнародным Хрысьціянскім фэстывалі царкоўнай музыкі ў Нарвэгіі (6-8 ліпеня). Больш як палавіна праграмы хору складалася зь беларускае літургічнае і духоўнае музыкі, уключаючы творы Туранкова, Валынчыка, Куліковіча і сучаснага царкоўнага кампазытара А. Бандарэнкі, таксама як і традыцыйныя беларускія кантычкі ў беларускай мове. Выступленьні гэтых хораў адбудуцца гэтым летам у Італіі й Нямеччыне. Прафэсійныя й аматарскія хоры з Полацку, Гомля й Гародні пашыраюць у сваіх рэпэртуарах беларускую музыку. Усе знакі паказваюць на тое, што ідзе моцнае пажваўленьне зацікаўленьня беларускай рэлігійнай музыкі. Ці гэтае абнаўленьне закране сабой кліросы Праваслаўнай Царквы, пабачым. Дай Божа!



## Успаміны пра бацьку

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

вайны) яго абвінавацілі ў палітычнай ненадзейнасьці й звольнілі з Філіялу ў Смольні, а бацьку, як галоўнага вінаватага — паслалі на пэнсію. Крыўду гэтую ён моцна перажываў.

Малаведамым ёсьць тое, што Уладзімір пісаў і вершы. Пісаў іх з нагоды днёў нараджэньняў або прысьвячаў іншым сьвятам, сваім родным, ці Коласу. Будучы ў Маскве на педагагічных курсах, напісаў верш сваёй спадарожніцы жыцьця Жэні:

«Лётаюць сьняжынкі
Роем у акне, .
Родныя малюнкі,
Уяўляюць мне
Зранку ў «сталіцы»
Пошту праглядаю,
Узяўшы з паліцы
Ліст Твой вось трымаю.»

Жыцьё майго Бацькі сьветчыць, што ён урос усімі сваімі каранямі глыбока ў Беларускую зямлю-зямлю Песьняра Коласа. Бацька памёр 1 сакавіка 1991 г.

**4 красавіка 1991**

## БЕЛАРУСКАЯ ТЭМАТЫКА Ў АНГЛАМОЎНЫМ ДРУКУ

У газэце Sentinel за 24 ліпеня сёлета, якая выдаецца ў горадзе Іст Брансўіку, Н. Дж. выдрукаванае вялікае інтэрв'ю із сп. Міхасём Бахарам аб беларускай групе ў горадзе Саўт Рывэры ў штаце Нью Джэрзі. У артыкуле пададзена калі беларуская група сфармавалася, калі беларусы залажылі парафію Сьвятое Еўфрасіньні Полацкае ды жыцьцё беларускае калеміі. У інтэрвію зазначана, што беларуская парафія ў г. Саўт Рывэры налічае каля 400 прыхаджанаў.

Газэты гораду Кліўленду на працягу месяца ліпеня выдрукавалі некалькі рэпартажоў аб беларускім хлопчыку Раману Дылдіну, — ахвяры чарнобыльскае катастрофы, які лечыцца ў кліўлендскім шпіталі. Цікава і вельмі інфармацыйна падаецца эпапэя ходаньняў мамы хлопчыка — сп-ні Веры Дылдінай — каб маленькага Рамана прывезьці ў Амэрыку ды адзначаецца выдатная дапамога беларускай гораду Кліўленду, Эвы Яраховіч, Сяргея Карніловіча, госьці зь Менску спадарыні Вацлавы Вярбоўскай, доктара Эрнэста Джэкабса, да наагул усяе беларускае грамады гор. Кліўленду.

## Вельмі Паважаная Спадарыня Пашкевіч!

Пры нагодзе адзначэньня 25-га юбілея Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады ад імя гэтае арганізацыі, ды Выдавецкага Камітэту пры Каардынацыйным Камітэце Беларусаў Канады мы выражаем Вам — шматгадовай настаўніцы беларускай суботняй школы ў Таронта, аўтарцы, англамоўнага падручніка «Беларуская мова» — "Fundamental Byelorussian", складальніцы першага беларуска-ангельскага слоўніка — нашае прызнаньне Вашых заслугаў і падзяку за Ваш уклад у захаваньне, разьвіцьцё й прапагаваньне беларускай мовы. Ваш уклад у беларусістыку тым больш важны й цэнны сяньня, калі наша родная беларуская мова дзеля безагляднай русыфікацыі на Бацькаўшчыне, знаходзіцца на мяжы пагібелі.

Гэтаксама мы вітаем Вас з 75-м юбілеем Вашага жыцьця, жадаем Вам добрага здароў'я й творчых сілаў закончыць Вашую манумэнтальную працу над складаньнем беларуска-ангельскага слоўніка і ўбачыць яго ў прыгожым выданьні на Вашым собскім працоўным стале.

З глыбокай пашанай да Вас,

| | |
|---|---|
| Др. Раіса Жук-Грышкевіч<br>Старшыня<br>ККБК | Др. Барыс Рагуля<br>Старшыня Выдавецкага Камітэту<br>пры ККБК |

---

*В. Кіпель*

# ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСАЎ У АМЭРЫЦЫ:

**50 годзьдзе Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага**

Беларускія арганізацыі ў Амерыцы пачалі засноўвацца напачатку 20-х гадоў нашага стагодзьдзя ў штатах Нью Ёрк, Нью Джэрзі і ў горадзе Чыкага. Арганізацыі гэтыя былі найбольш дзейныя ў сярэдзіне 20-х — пачатку 30-х гадоў. У другой палове трыццатых гадоў дзейнасьць іхная крыху заняпала, аднак, як відаць з друкаваных крыніцаў, беларускія прадстаўнікі і далей бралі ўдзел у розных фэстывалях у Нью Ёрку і Чыкага. Задакумэнтаваны таксама факт, што ў штаце Агаё напачатку 1941 году беларускі прадстаўнік удзельнічаў у цырымоніі высьвячэньня помніка Хрыстафору Калюмбу. Праўда, калі ў 1939 годзе пачалася 2-я сусьветная вайна, паасобныя беларускія дзеячы пачалі больш актыўна выступаць у друку, пісаліся лісты ў рэдакцыі газэтаў, невялікія артыкулы. Найбольш інфармацыі пра Беларусь зьяўлялася ў горадзе Чыкага, дзе жылі й актыўнічалі Язэп Варонка, Ян Чарапук-Змагар, айцец Ян Тарасэвіч ды іншыя. Летам 1941 году беларускія дзеячы ў Чыкага правялі некалькі нарадаў з мэтай аднаўленьня беларускае арганізацыйнае дзейнасьці. На пачатку верасьця 1941 году ў Чыкага быў скліканы сход беларускіх актывістаў, на якім было пастаноўлена заснаваць арганізацыю пад назовам Беларускі Камітэт Дапамогі Ахвярам Вайны. Аднак улады штату Ілліной, перад якімі беларусы хацелі зарэгістраваць сваю новую арганізацыю, не згадзіліся з прапанаваным назовам. Дзеля гэтага, пасьля паўторнага сходу ў Чыкага, было вырашана назваць новую арганізацыю Беларуска Амэрыканская Нацыянальная Рада. Пад гэткім назовам арганізацыя і была зацьверджаная ў кастрычніку 1941 году. У кіраўніцтва новае беларускае арганізацыі ўвайшлі: старшыня — айцец Ян Тарасэвіч, заступнік старшыні — Ян Чарапук-Змагар, скарбнік — Паўлюк Чопка, а ў сябры галоўнае ўправы ўвайшлі Макар Аблажэй, Ігнат Лабач, айцец Язэп Рэшаць ды Язэп Варонка. На ўстаноўчым сходзе новае арганізацыі былі прынятыя статут і рэгулямін ды адзначана, што Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада стаіць на прынцыпе аднаўленьня беларускае дэмакратычнае дзяржавы — Беларускае Народнае Рэспублікі. Была высланая таксама тэлеграма прэзыдэнту Рузвэльту з выказваньнем, што амэрыканска-беларускае грамадзтва жадае непадзельнасьці тэрыторыі Беларусі, ды што польскі эміграцыйны ўрад ня мае права выступаць ад імя Беларусі. Заснаваньне новае беларускае арганізацыі выклікала шырокі водгук у амэрыканскім англамоўным і іншамоўным друку. Гэтаксама арганізацыя адразу навязала лучнасьць зь іншымі нацыянальнымі арганізацыямі, а таксама з прадстаўнікамі некаторых урадаў, як прыкладам Чэхаславаччыны. Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада брала ад самага пачатку актыўны ўдзел у падрыхтоўцы арганізацыі Агульнаамэрыканскага Славянскага Кангрэсу, а айцец Ян Тарасэвіч, Ян Чарапук-Змагар, Павел Чопка ды іншыя былі дэлегатамі на ўсіх амэрыканскіх славянскіх кангрэсах. Айцец Ян Тарасэвіч быў таксама адным з падпісчыкаў ліста прэзыдэнту Рузвэльту. Цікава адзначыць і факт, што на Агульнаславянскім амэрыканскім кангрэсе ў 1946 годзе айцец Ян Тарасэвіч выступаў ад імя Беларуска-Амэрыканскае Рады, а на тым самым кангрэсе Кузьма Кісялёў меў прамову ад імя Савецкае Беларусі. У часе вайны гэтая беларуская арганізацыя зьбірала дапамогу для Беларусі, а таксама спрыяла наладжаньню дапамогі Бацькаўшчыне праз амэрыканскія арганізацыі. У паваенным часе Беларуска-Амэрыканская Рада дапамагала таксама афармленьню папераў для новых эмігрантаў, хваляі «ДП». Калі пачалі прыяжджаць у Чыкага новыя, паваенныя, эмігранты, яны ўлучаліся у дзейнасьць гэтае арганізацыі, ды ўваходзілі ў яе кіраўнічыя ворганы. Палітычны падзел сярод беларускае эміграцыі ў Эўропе, перакінуўся, да пэўнае ступені, і на амэрыканскі кантынэнт, і ня мінуў і Беларуска Амэрыканскае Нацыянальнае Рады — але арганізацыя прадаўжала існаваць і дзеяць. І вось, якраз у гэтым мацнiня дэмакратычнае сыстэмы. Арганізацыі мяняюць кіраўніцтва, праграмы дзеяньня, але прадаўжаюць працаваць. Сёньняшняе кіраўніцтва Беларуска-Амэрыканскае Нацыянальнае Рады складаецца з старшыні — Міхась Каленік, заступніка старшыні — Мікола Латушкін, скарбніка — Пётра Нягода і сакратара — Анатоль Новік. Сёлетні 50-і гадовы юбілей арганізацыі будзе адзначаць беларуска-амэрыканскае грамадзтва гораду Чыкага, аднак ўсё беларуска-амэрыканскае грамадзтва можа ганарыцца тым, што ў Злучаных Штатах Амэрыкі мы маем арганізацыю 50-гадовае даўнасьці.

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ Ў ЗАХОДНЯЙ АЎСТРАЛІІ

30-га чэрвеня 1991 г. у памешканьні Беларускага народнага дому Беларускае Аб'еднаньне адзначылла 49-ыя ўгодкі трагічнай сьмерці найвялікшага песьняра Беларускай зямлі, прарока беларускага нацыянальнага адраджэньня — Янкі Купалы. Акадэмія распачалася малітвай айца Уладзімера. Старшыня ўправы Б.А. у З.А. прывітаў прысутных, падзякаваў за прыбыцьцё. Сёлета мілымі госьцьмі на ўрачыстасьці былі а. Уладзімер і матушка Ірэна. У праграме сьвяткаваньня было два даклады — перш па-беларуску, які прачытаў Р.М., ды больш абшырны па-ангельску зрабіў старшыня Б.А. у Заходняй Аўстраліі сп. Міхась Раецкі малодшы.

6-га ліпеня 1991 г. у сталіцы Заходняй Аўстраліі Пэрт адбылася вялікая дэманстрацыя у падтрыманьне абвешчанай незалежнасьці Славеніі і Харватыі, у якой брала ўдзел і Беларускае Аб'яднаньне. Апрача беларусаў прыймалі ў ёй удзел: Аўганістанцы, Палякі, Ветнамцы, Украінцы, Чэхі, Славакі, Летувісы, Эстонцы, Македонцы і Латвійцы. На дэманстрацыі прысутнічалі штатны старшыня і сакратар Сусьветнай Лігі Свабоды, старшыня Паняволеных Народаў ды парлямэнтарыст з апазыцыі у фэдэральным урадзе Аўстраліі сп. Пол Флёвінг. Больш тры тысячы ўдзельнікаў ішлі зь вялікага пляцу, ведамага як Эсплянад, вуліцамі Пэрту ды зноў вярнулася на той-жа пляц.

На Эксплянадзе праграмай кіраваў сакратар Сусьветнай Лігі Свабоды сп. П. Чэканаўскас, які вымяніў ў альфабэтным парадку ўсе народы, што бралі ўдзел, падзякаваў за выяўляную салідарнасьць ды прадставіў прамоўцу ад Славенцаў з ініцыятывы якіх была арганізаваная маніфэстацыя. Прамоўца зрабіла агляд змаганьня славенцаў за сваю незалежнасьць і рэакцыю заходніх краінаў на толькі што абвешчаную імі незалежнасьць. Асаблівай цікавасьці былі прамовы старшыні аддзелу Сусьветнай Лігі Свабоды у Заходняй Аўстраліі і парлямантарыста апазыцыі ў Фэдэральным урадзе Аўстраліі сп.сп. Джыма Гардынга і Пола Флёвінга. Абодвы войстра скрытыкавалі палітыку ураду Аўстраліі адносна паняволеных народаў.

13-га ліпеня ў вялікай залі ў Пэрце адбылася канфэрэнцыя Усеаўстралійскага аддзелу ССА (Сусьветнай Лігі Свабоды) ў якой брали удзел: Беларусы, Бурмезцы, Украінцы, Палякі, летувісы, Эстонцы, Латвійцы і іншыя. Канфэрэнцыя пачалася малітвай за Паняволеныя Народы айца А. Савіцкаса, летувіса. Старшыня Паняволеных Народаў сп. А. Гардынг зрабіў агляд палітычнага становішча ў сьвеце, расказаў аб перабудове ў Савецкім Саюзе, Кітаі, зьвяртаючы увагу на пагвалчаньне правоў чалавека ў Балтыйскіх рэспубліках, Беларусі і Украіне..

Перад заканчэньнем канфэрэнцыі была аднагалосна прынятая рэзалюцыя у якой, паміж іншых пунктаў, быў і гэткі: «Узмоцніць дамаганьні незалежнасьці народам Славеніі, Харватыі, Македоніі ў Эгаславіі, а у савецкім Саюзе — Балтыйскім, Беларусі, Украіны і іншым, якія сілаю былі прылучаныя да чырвонае імпэрыі».

**13.7.1991**
**Р.М.**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

**Група ініцыятараў — выпускнікоў Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне — прыступіла до збору дакумэнтаў, успамінаў і г.д. аб дзейнасьці гэтае навучальнае установы, з мэтай выдаць манаграфію пра гімназію. У наступным годзе плянуецца таксама арганізаваць сустрэчу былых гімназістаў, праўдападобна ў часе Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Ініцыятыўная група просіць адгукнуцца былых гімназістаў ды падзяліцца сваімі ўспамінамі аб гімназіі ды сваёй жыццёвай дарозе пасьля гімназіі. Пішыце на адрас «Беларуса» або да:**

**Dr. Alla Orsa-Romano**
**172 Mill Spring Rd.**
**Manhasset, N.Y. 11030**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

Сёлета спаўняецца 60 год ад выхаду першага выданьня Новага Запавету і Псальмаў па-беларуску (у перакладзе Антона Луцкевіча) у Фінляндыі ў 1931 годзе. Другое выданьне выйшла ў 1948 годзе. Выдаўцом кніжак было Брытанскае Біблійнае Таварыства. Трэйцяе выданьне, 1985 году, было выдадзенае Беларускай Сэкцыяй Глябольнага Місіянэрскага Радыёслужэньня.

Роўна 60 год таму быў зачынены савецкай уладай часапіс «Узвышша», які выдаваўся ў Менску ад 1927 да 1931 году. Часапіс «Узвышша» быў ворганам аб'яднаньня беларускіх пісьменьнікаў, асноўнай мэтай якога было ствараць літаратуру высокай мастацкай якасьці.

## ТВОРЫ ЛЮДЫ МАХНЮК НА ВЫСТАЎЦЫ

У бібліятэцы Каледжу Даглас у Нью Брансвіку у штаце Нью Джэрзі адбываецца мастацкая выстава твораў працаўнікоў гэтай бібліятэкі. На выстаўцы красуюцца й абразы вядомай беларускай мастачкі Люды Махнюк, Якая зьяўляецца загадчыкам бібліятэчнага каталёгу.

Люда малюе алеем і акварэльлю рэчы блізкія да сэрца, якія адпавядаюць яе эстэтычным пачуцьцям: садок, зімовы абразок, ваза с сінімі ірысамі, аўта-партрэт у беларускім народным строі.

Мастацтва — гэта Людава стыхія. Маці Люды, Лідзія Даніловіч, была выдатнай мастачкай. Уся сям'я Махнюкоў — мастакі. Дык ня дзіва, што прыроджаны талент меў добрую глебу разьвівацца й расьці. Працы Люды заўсёды маюць пачэснае мейсца на розных выставах, ды ўпрыгожваюць шмат якія грамадзкія й прыватныя дамы.

Выстаўка у Бібліятэцы Даглас будзе трываць да 26-га жніўня.

## БССР: КААПЭРАТЫЎНЫ РУХ РАСЬЦЕ

Каапэратывы Беларусі далі сёлета 10 працэнтаў нацыянальнага валавога прадукту. Паводля Мікалая Сушы, старшыні саюзу каапэратываў БССР, сёньня ў Рэспубліцы налічваецца крыху больш за пяць з палавінаю тысячаў каапэратываў, у якіх занятыя 135 тысячаў чалавек. Асабліва бурна разьвіваюцца будаўляныя каапэратывы, колькасьць якіх дасягае да дзьвюх тысячаў.

## *ЗЬ БЕЛАРУСІ Ў АЎСТРАЛІЮ*

**Падарожныя ўражаньні**

На нейкі момант залажыла душу, прыціснула да сядла. Магутная птушка дакранулася да зямлі, зьнізіла сваю хуткасьць і падрулявала да аэрапорту ў горадзе Адэляйдзе. Шмат сустракальнікаў глядзела праз вокны, шукаючы вачыма сваіх родных і сваякоў. Калі я прыглядала да людзей з фатаапаратамі, падступаў нейкі камень у горле і, здавалася, не хапала паветра. Чулася украінская і родная беларуская мова. Разам са мной ляцелі людзі із Украіны да сваіх сваякоў.

Гэтую сустрэчу апісаць немагчыма — трэба яе ўбачыць сваімі вачыма. Тут быў і сьмех і сьлёзы — вядома, з радасьці. Ах, праклятая вайна што нарабіла... Людзі, быццам спуджаныя паляўнічым, птушкі разьляцеліся па розных краінах.

Я таксама трапіла сюды, каб адведаць сваіх родных. Маё паведамленьне аб прыезьдзе спазьнілася і атрымалася так, што мяне ніхто не спатыкаў. Крыху разгубілася, ступіўшы на гэтую незнаёмую зямлю зь дзіўнымі на першы пагляд прыродай і людзьмі. Але ў людзях я не памылілася, бо яны былі ўважлівыя, адкрытыя. Яны дапамаглі мне дабрацца на месца, хоць я й ня ведала ангельскай мовы.

Адпачыўшы з дарогі, мы пачалі знаёмства з горадам і навакольнай прыродай. Усё было вельмі цікава. Вабіў вока і сэрца кожны куточак гэтай зямлі. Кожная хатка па-свойму неаднолькавая і прыгожая. А кветак! Колькі кветак і ўсякай зеляніны на гэтым невялікім пятачку-дворыку. Вось тут жывуць Грэкі, а там Італьянцы і нашы Беларусы, усе разам. На адной вуліцы! І ўсіх іх зьяднала гэтая краіна і яе ангельская мова.

Тут ня бачна нідзе лёзунгаў і заклікаў да адзінства. Адзінства людзі адчуваюць сваім сэрцам.

Цяжка было ім маладым хлапчуком і дзяўчаткам, якія апынуліся тут. Цяжка не ад работы, а ад той думкі, што яны непатрэбныя на бацькаўшчыне. Недавер'е і страх перад савецкай уладай аб'ядноўвалі гэтых людзей, таму што іх лічылі ворагамі камунізму. Дужа многа невінаватых людзей было вывезена ў Сібір на катаргу і замучана ў турмах. Яшчэ да вайны ў 1939 годзе, а яшчэ больш вайной было вывезены у Нямеччыну, і за гэта цябе, ні ў чым не вінаватага, маглі палічыць за ворага. Энкавэдысты, што стралялі беларускі народ і да гэтага часу жывуць, ніхто іх не карае. Вось так апынуліся нашыя юнакі й дзяўчаты ў чужых краёх.

Прайшло шмат часу, яны пастарэлі ўжо, даўно маюць сваіх дзяцей і нават унукаў. Але тут адчуваеш вялікую духовую любоў маіх землякоў да свае бацькаўшчыны. Па крупінцы сабіраюць яны матар'ял пра Беларусь. З болем гавораць пра нашу агульную чарнобыльскую бяду, якая так навалілася на нашу Беларусь.

Прабыўшы колькі дзён у Аўстраліі, мы едзем знаёміцца з навакольнай прыродай. Для мяне, Беларускі, тут усё цікава. І гэтыя асфальтавыя дарогі, і высушаная зямля, і дрэвы, і птушкі. Здаецца, тут і сонца не такое. Яно ня так ласкава як удома рассыпае навакол свае залацістыя промні, а бязьлітасна грэе з усяе сілы, і толькі дрэвы не хаваюць нікуды свае галовы, паслухмяна стаяць пад ім. Якая дзіўная гэта зьява — прырода. Недзе ідзе сьнег і трашчыць мароз, а тут, ну, проста ня грэе, а пячэ сонца!

Вось машына ныраe з гары на гару і прыемнае відовішча дзівіць вока. Уздоўж узгоркаў і дарогі — раськіданы хаты. Яны нічым не адрозьніваюцца ад гарадзкіх і прыемна зьліваюцца з прыродным ляндшафтам. Вось агарожа са скацінай і прыбраныя ад ураджаю палі. Часамі там, дзе зямля палівaецца, зяленіцца трава. Глядзіш на ўсё гэта і думаеш: якія гаспадры тут жывуць! Яны любяць працаваць і ўмеюць з розумам, з толкам спажыць сваю працу. Міжволі робіш параўнаньне з жыцьцём земляробаў у нас. Ня можна сказаць, што нашы людзі гультаі ці абібокі. Не, яны працуюць цяжэй і больш. У нас няма такой тэхнікі, як тут, і большасьць працы ляжыць на руках. На маю думку, гэта таму, што многа рознага кіраўніцтва, якое камандуе зьверху, ня бачыць працы на зямлі, ня цэнячы ні працаўнікоў, ні іхнае працы.

Наша краіна ня бедная, яна мае розныя выкапні, руды, добрыя землі. Наша краіна так багатая лясамі, таннымі будаўлянымі матар'яламі. Калі палічыць, то ўсё маем і ў той-жа час нічога ня маем. І да гэтага давяла камуністычная сыстэма. Гэта прыкра, але гэта так...

Цяпер мы самі прызнаем свае памылкі, але ўжо позна. Позна таму, што больш як 70 год мы закрывалі вочы на ўвесь сьвет і цьвердзілі толькі адно: мы зможам, пераможам, перагонім і гэтак далей. Аднак за гэтыя памылкі ніхто не панёс адказнасьці з вышэйшых чыноў, акрамя таго, што на дзьвярох начальніцкіх кабінэтаў павывешвалі другія шыльды. За памылкі расплочваецца просты народ, які за свае мазалі нічога ня мае.

Цяпер дэмакратыя, рынак да нас прыйшлі. Але што гэтыя словы значаць для нас, калі ў нас пуста ня толькі на прылаўках магазынаў, але і ў душах. Мы не вінаваты ў гэтым, бо так нас навучылі жыць. Ня трэба нічога думаць, дзяржава за цябе думае.

Цяпер мы больш езьдзім замяжу, стараемся штосьці карыснае пераняць, але зрабіць усё хутка ня ўдасца. Трэба, каб вырас новы чалавек, які змог-бы павесьці справы, зрушыў-бы гэту маўклівую сьцяну і адкрыў завесу абману. Вельмі радуе тое, што палітыка нашага кіраўніцтва зьмянілася ў лепшы бок, бо спынена непатрэбная вайна ў Афганістане, якая ўзяла шмат ахвяраў з Бацькаўшчыны-Беларусі. Зразумелі нарэшце, што многа сродкаў аддалі на зброю і зусім забыліся аб прыродзе.

Я вельмі рада ўсім пераменам, якія адбываюцца ня толькі ў нашай краіне, але ў цэлым сьвеце. Прыемна адзначыць, што за многа тысячаў кілямэтраў мае землякі стварылі невялічкі куток Беларусі, тут на гарачай аўстралійскай зямлі. Яны пабудавалі царкву, стварылі куток адпачынку, дзе можна правесьці час, пачытаць беларускіх пісьменьнікаў, дзе сабраны і сабіраюцца шмат матар'ялаў аб бацькаўшчыне. Яшчэ рада за іхнае вельмі добрае жыцьцё на гэтай зямлі, якая іх прытуліла ў цёмную гадзіну, стала другой бацькаўшчынай і дала ім аднолькавыя з усімі правы. І яшчэ больш рада за сваіх землякоў, якія так любяць Беларусь і помняць пра яе, стараюцца дапамагчы ёй у гэты час перабудовы. Амаль усе зь іх мелі сустрэчы на бацькаўшчыне са сваякамі, і многія дапамаглі сваім родзічам пагля́дзець, як яны ў Аўстраліі жывуць, як жывуць іх дзеці, унукі.

Я хачу верыць, што сяброўства заўсёды перамагае ўсе перашкоды і абвязкава будзе далей перамагаць. Цяпер усе людзі на сьвеце будуць сябраваць. Бо калі ў людзей ёсьць надзея, то яна павінна зьдзейсьніцца.

Дык бывай-жа, сонечная Аўстралія, другая бацькаўшчына маіх землякоў, якія назаўсёды сэрцам і душой зьвязаны зь сінявокай Беларусьсю.

**В. К.**

**Сьветлай † памяці**
**МАТУШКА**
***МАРЫЯ ВОЙТЭНКА***

нар. 6-га лютага 1917 г. у МІРЫ
пам. 12 траўня 1991 г. у шт. МІШЫГАН.
Галоўная Управа Беларуска Амэрыканскага Задзіночаньня
выказвае шчырыя спачуваньні Сям'і пакойнай.

## СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ Й ПРЫЯЦЕЛІ!

### ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА

**у прошчы ў Martyr's Shrine ў Мідлянд у Канадзе адбудзецца: у нядзелю 1-га верасьня 1991 году.**

Каб адзначыць 1000 год хрысьціянства ў Беларусі, у 1988 годзе Беларусы за мяжой пабудавалі ў прошчы «Мартырс Шрайн» у Мідлянд у Канадзе **БЕЛАРУСКІ ПАМЯТНЫ КРЫЖ.** Урачыстасьць асьвячэньня яго адбылася ў часе 18-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, у Таронта, 5-га верасьня 1988 году.

І гэтак на канадыйскай зямлі, здалёк ад роднай Беларусі, мы маем свой «шрайн», сваё сьвятое мейсца, да якога штогод прыходзім у паломніцтве, прыгнуць калені, перад нашым Крыжам і маліць расьпятага на ім Хрыста аб Божую ласку для нас, для нашага шматпакутнага беларускага народу, для нашай Маці-Беларусі.

Сёлетнім паломніцтвам, якое адбудзецца
**У нядзелю, 1-га верасьня 1991 году**
мы адзначаем трэйція ўгодкі асьвячэньня
**БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА.**

1. Пачатак, сьв. Літургіі — 10:00 зраніцы — служаць яе: а. Аляксандар Надсон, Апостальскі Візытатар для Беларусаў і а. Язэп Сыру з Чыкага.
2. Працэсія да беларускага Крыжа
3. Малебен ля Крыжа
4. Полудзень (пікнік) пад адкрытым небам.

**Усіх запрашаем ў паломніцтва да нашага Крыжа.**

**АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ**

## ЗВАРОТ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

Сёлета Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва адзначае сваё 40-годзьдзе (1951-1991). За гэтыя сорак гадоў пад грыфам Інстытуту выйшла колькі дзесяткоў большых і меншых кнігаў, друкаваліся рэгулярна «Запісы» Інстытуту, ладзіліся выстаўкі, канфэрэнцыі. БІНіМ наладзіў таксама абмен як беларускімі друкамі, гэтак і патрэбнай інфармацыяй пра Беларусь зь дзесяткамі дасьледных установаў, каледжаў і унівэрсытэтаў. Вельмі памысна наладжвае БІНіМ у цяперашнім часе і навуковыя кантакты ды супрацоўніцтва з дасьледнымі ўстановамі на Беларусі.

У сваёй дзейнасьці дасюль Беларускі Інстытут задавальняўся сяброўскімі складкамі, прыбыткам з продажу друкаў, ахвярамі ад прыхільнікаў, аднаразовымі датацыямі беларускіх прыходаў, Рады БНР, ды, для выданьня «Запісаў», сталай дапамогай Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага.

Аднак, паколькі выдавецкая дзейнасьць БІНіму набывае штагоду большых памераў (у плянах Інстытуту — выданьне колькіх слоўнікаў, успамінаў, большых бібліяграфічных працаў і г.д.), сродкаў з дасюлешніх крыніцаў ня будзе хапаць, каб задаволіць усе выдавецкія пляны Інстытуту.

Дзеля гэтага Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва вырашыў зьвярнуцца па фінансавую дапамогу да шырэйшага беларускага грамадзтва на захадзе. Гэтай адозвай Інстытут просіць беларускае грамадзтва аб фінансавай дапамозе, каб пасьпяхова весьці выдавецкую дзейнасьць.

Ахвяры просіцца слаць на адрас:
**Byelorussian Institute of A&Sc.**
**230 Springfield Ave**
**Rutherford, N.J. 07070**

*Ахвяры на ведавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва*

| | |
|---|---|
| В. і М. Пашкевіч | ам.дал. 150.00 |
| В. і М. Махнач | 20.00 |
| А. Лашук | 100.00 |
| Б. Даніловіч | 50.00 |
| М. і В. Сьнежка | 100.00 |
| М. Раецкі | 42.00 |

## ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Да Вас зьвяртаецца Рада Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў — грамадзка-палітычнай студэнцкай арганізацыі, што дзейнічае на Беларусі ад 1990 г. з просьбай аб дасылцы асобніка Вашага выданьня для бібліятэчнага фонду ЗБС, якім карыстаецца значная колькасьць нашых студэнтаў.

У сакавіку г.г. Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў зарэгістравалася як рэспубліканская арганізацыя й набыло правы юрыдычнае адзінкі. ЗБС вядзе щматплынавую дзейнасьць: так, наша арганізацыя была ініцыятарам й кіраўніком красавіцкіх студэнцкіх страйкаў і мітынгаў у падтрымку рабочых менскіх прадпрыемстваў, арганізуе будаўляныя атрады па аднаўленьню архітэктурных помнікаў і г.д. У пляне працы ЗБС выдавецкая дзейнасьць (зараз вырашаюцца тэхнічныя пытаньні). Ужо падрыхтаваны да друку й выйдуць у сьвет у чэрвені-пач. ліпеня беларускі сьпеўнік, *першы* нумар гісторыка-асьветніцкага часапіса «Дыярышу», чарговы выпуск бюлетэня «Студэнцкая думка» (выдаецца ад 1989 г., зараз ейнае выданьне пастаўлена на высокі паліграфічны узровень). У сувязі з гэтым просім гэтаксама дазволу на магчымасьць паасобныя перадрукі з Вашага выданьня і, на Ваша жаданьне, будзем дасылаць некалькі паасобнікаў нашых выданьняў.

Зычым усялякіх посьпехаў і спадзяемся на трывалае супрацоўніцтва.

**Старшыня Рады ЗБС Ю. Гайдук**

**Ад Рэдакцыі**

Шчыра дзякуем за зацікаўленьне газэтай «Беларус». Газэта будзе вам дасылацца. Гэтаксама вы маеце наш дазвол на паасобныя перадрукі з газэты. З прыемнасьцю будзем атрымліваць паасобнікі вашых выданьняў.

*Пасылаць «Беларуса»* на Згуртаваньне Беларускіх Студэнтаў у Менску.

Адрас паштовы: ЗБС
220102 Менск, а/с 212

Аднак ім будзе зручней, калі карэспандэнцыя будзе ісьці на прыватны адрас старшыні Рады ЗБС:
220095 Беларусь, Менск
пр. Ракасоўскага, д. 52, кор. І, кв. 409
Гайдуку Юльяну

Сябры з сумам паведамляюць, што 15 травеня сёлета неспадзявана памёр ў гор. Ракфордзе в.п. *Васіль Ковель,* былы вучань гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне (нар. 15.5.1930.), а 24 чэрвеня сёлета памерла і яго маці Клаўдзія Ковель, нар. 14.9.1904. Сям'я Ковеляў паходзіць зь Віленшчыны.

## ХРОНІКА ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАСЛАЎНАГА ПРЫХОДУ СЬВЯТОГА ЮРЫЯ Ў ЧЫКАГА

Урачыстае сьвяткаваньне 73-яй гадавіны Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі адбылося 24-га сакавіка з ініцыятывы Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага і яе старшыні Міхася Каленіка, які й кіраваў праграмаў урачыстасьці.

Пасьля Сьв. Літургіі ў Беларускай праваслаўнай царкве Сьвятога Юрыя а. Мячаслаў Кулік адслужыў малебен за Беларускі народ. Урачыстасьць распачалася адсьпяваньнем Амэрыканскага нацыянальнага гімну. Праклямацыю Губэрнатара штату Іліной Джыма Эдгара прачытала асыстэнт губэрнатара па этнічных пытаньнях Пат Міхальскі, а праклямацыю ад мэра гораду Рычарда М. Дэйлі зачытаў Юрка Каленік. Рэфэрат на тэму дня прачытаў інж. Валік Пацэвіч.

На тэму дня гэтаксама прамаўляла сп-ня Галіна Карпюк — беларуская настаўніца з Беласточчыны.

У мастацкай частцы праграмы выступаў з патрыятычнымі песьнямі сьпявак і кампазытар Уладзімір Варачай, які нядаўна пакінуў Менск. Дэклямаваліся вершы Я. Купалы й А. Гаруна. Праграма закончылася агульным адсьпяваньнем Беларускага гімну.

19-га мая Беларускі праваслаўны прыход Сьвятога Юрыя наведаў Др. Сяргей Тарасаў з Полацку разам з жонкай Анней. С. Тарасаў прачытаў рэфэрат на тэму «Вытокі беларускай дзяржаўнасьці».

Прыход Сьвятога Юрыя заўсёды прыслухоўваецца да патрэб іншых і стараецца дапамагчы патрабуючым. Прыход чынна адклікнуўся на просьбу аб дапамозе ў будове Сьвята Духаўскай праваслаўнай царквы ў Беластоку ды на ўпарадкаваньне набытай зямлі пад парафіяльныя могілкі. Дапамога гэтаксама была выказаная іншым праваслаўным прыходам, як і грамадзкім і культурным арганізацыям Беласточчыны.

Мікалай Нікалюк і Уладзімер Мельнічук правялі збор грошай на дапамогу будаўнікоў Беларускага музэю ў Гайнаўцы. Парафія дапамагла Беларускаму Студэнтскаму Аб'еднаньню — БАСу — у Польшчы ды перадвыбарнай кампаніі ў Гміннія Управы Беласточчыны.

**Мікалай Латушкін**

### Адказы рэдакцыі

В. Пав. Спадарыня В. Махнач!

Каб атрымаць паштовую марку з фатаграфіяй Сабору Сьвятой Сафіі ў Полацку, радзім Вам зьвярнуцца на адрас газэты Беларускі Калекцыянер — ворган Арганізацыйнага камітэту Беларускага Таварыства Калекцыянераў:
С.С.С.Р./Б.С.С.Р. — 220131
г. Менск, вул. Мірашнічэнкі 4, кв. 9
Уладзімір Цярохін

В. Пав. Сп. Акавіты!

Выбачайце за перабой у перасылцы газэты. Праблема будзе напраўленая.

## РЭДКІЯ ВЫДАНЬНІ

У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ёсьць у абмежаванай колькасьці перавыданьні наступных кніжак:

*А. Цьвікевіч.* ***Краткій очерк возникновенія Белорусской Народной Республики.*** *Кіев, 1918. 16 б.*

*Т. Лебяда.* ***Песьні выгнаньня.*** *Менск, 1944. 29 б.*

Гэтаксама ў Інстытуце можна набыць кнігу рэдактарства Сьвятланы і Алеся Жынкіных: ***Вацлаў Іваноўскі, 1880-1943.*** *Менск, 1990. 62 б.*

Цана кажнае кнігі 5.00 ам. дал. Калі будуць замоўленыя тры кнігі адразу — цана за ўсе кнігі 12.00 ам. дал.

### ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп. сп.: др. Б. Кіт, М. Швэдзюк, Я. Міхалюк, Ю. Станкевіч, Я. А., др. В. Рамук, В. Станкевіч, др. У. Трэмбіцкі, сп-ня В. Рамук, Л. Стагановіч, С. Карніловіч, др. У. Бакуновіч, А. Маркевіч, М. Раецкі, др. В. Сянькевіч, сп-ня В. Махнач, А. Лашук, В. Мельяновіч і сп-ня Л. Брылеўская.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча*

| | |
|---|---|
| І. Гайдэль | ам.д. 125.00 |
| Р. Завістовіч | 50.00 |
| А. Монід | 50.00 |
| Др. Б. Грабінскі | 50.00 |
| В. і М. Сьнежка заміж кветак на магілу Сьв. П. С. Кірыліка | 50.00 |
| П. Драздоўскі | 40.00 |
| Б. Русак | 30.00 |
| М. Кухарчык | 30.00 |
| Я. Дзядовіч у памяць дарагога мужа Дзьмітра | 30.00 |
| У. Пеляса | 25.00 |
| Др. М. Шчорс | 25.00 |
| У. Сітнік | 25.00 |
| К. Ворт | 25.00 |
| М. Олійнык | 25.00 |
| а. А. Яноўскі | 25.00 |
| А. Аляксандар | 25.00 |
| Э. Маркоўская | 25.00 |
| В. Каракулька | 25.00 |
| Н. Кіт | 25.00 |
| С. Мажэйка | 25.00 |
| Я. Сапежынскі | 25.00 |
| Т. Кольба | 25.00 |
| Н. Кудасава | 25.00 |
| М. Рагалевіч | 25.00 |
| В. Бурдзь | 25.00 |
| С. Шыян | 25.00 |
| М. Ігнатовіч | 25.00 |
| Т. Пятроўскі | 25.00 |
| М. Вязьняк-Гаўрылюк | 25.00 |
| Ю. Сапежынскі | 25.00 |
| А. Сільвановіч | 25.00 |
| Д. Ясько | 25.00 |
| З. Букатка | 25.00 |
| а. Я. Мол | 25.00 |
| А. Стукаліч | 25.00 |
| С. Шабовіч | 25.00 |
| В. Ярашэвіч | 20.00 |
| Н. Касмовіч | 100.00 |
| Ф. Сак | 100.00 |
| Усяго | 1410.00 |

*Заўважаная памылка: у нумары 380-м Беларуса надрукавана "Т. Януш, ахвяра 20.00", павінна быць «заміж кветак на магілу Сьв. П. Эдварда Даніловіча 20.00*

Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўніком шчыры дзякуй!

**Адміністрацыя «Беларуса»**